PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 46 (2218) Год XLIII Беласток 15 лістапада 1998 г. Цана 1,20 зл.

## *Свята памерлых у Беластоку*

Ганна Кандрацюк

1 лістапада, у Свята памерлых, наведваю праваслаўныя могілкі на Выгодзе ў Беластоку. Ужо змяркае. Але ля ўваходаў яшчэ таргуюць хрызантэмамі, намагільнымі лямпкамі і цукровымі ласункамі. Падае дождж.

— У гэтым годзе слабы гандаль, — кажа прадавец хрызантэм. — Людзі купляюць пластмасавыя вянкі або кветкі ў магазінах.

Нягледзячы на нараканні прадаўца, амаль усе магілы аздоблены жывымі хрызантэмамі. Зрэдку сустрэнеце забытую магілку. На змярканні выдатна відаць процьму агеньчыкаў-лампадак. Здалёк праваслаўныя могілкі нічым не адрозніваюцца ад каталіцкіх.

— Я да знаёмых прыйшла. Суседка з блёка тут спачывае, — кажа пані Вера.

Бацькі пані Веры на вёсцы пахаваны. І там у свята Пакровы магілы радня пасвяціла. Мая субяседніца з-за працы не магла пабываць на магілах сваіх бацькоў і дзядоў.

— Мужава радня таксама на вёсцы спачывае, — дадае, — у Пасынках. Там на св. Фёклу магілкі асвячаюць. І з-за працы не заўсёды даводзіцца пабываць на магілах бацькоў мужа. Затое, — я памалюся за іх душы над магілай суседкі. Бог жа пачуе і тутака!

Пані Вера цікавіцца „Нівай”.

— Я чула ў радыё, што на Выгодзе Мікола Гайдук пахаваны, — пытае пра магілу вядомага беларуса.

Разам падаемся на магілу Міколы Гайдука, усю застаўленую жывымі кветкамі і лампадкамі. Пані Вера таксама запальвае лампадку.

— Вядомых і заслужаных беларусаў трэба ля капліцы хаваць, на відным месцы. А так, каб не вы, я ніколі б гэтай магілы не знайшла, — кажа пані Вера.

Далей прапаную сваёй субяседніцы наведаць і іншыя магілы беларускіх інтэлектуалаў. Найперш заходзім на магілу Юркі Геніюша, літаратара, лекара, прыяцеля „Нівы”, сына паэткі Ларысы Геніюш. На магіле таксама шмат лампадак і кветак. І пані Вера дастае са сваёй ёмістай сумачкі чарговую лампадку.

— А што? — каментуе мая субяседніца. — То ж палякі ўвесь дзень гавораць пра сваіх выдатных памерлых людзей. І нам так трэба.

Маёй субяседніцы падабаецца беларускі надпіс на магіле Юркі Геніюша.

— То так, як у нас на вёсцы, — кажа.

— На вёсцы ж па-руску падпісваюць, — удакладняю.

[працяг ☞ 8]



*Гайнаўскія радныя на першым пасяджэнні. Стаіць — Яўген Сачко.*

# Кіраваць будуць эканамісты

Аляксей Мароз

Пасяджэнне новай Гарадской рады ў Гайнаўцы, якое праходзіла 29 кастрычніка 1998 года, пачалося спакойна і па-святочнаму, ад прысягі і кароткіх інфармацый пра кожнага раднага. Аднагалосна прыняты быў парадак пасяджэння, а экс-бурмістр Ядвіга Рудзінская-Патэюк паведаміла пра апошні перыяд працы Управы, падкрэсліваючы праведзеную каналізацыю горада і перабудову кацельняў, якія часткова фінансаваліся рознымі фондамі. Сцвердзіла яна таксама, што зараз не будуюцца шматкватэрныя дамы, а камунальнае будаўніцтва апынулася ў вельмі дрэнным становішчы з-за недахопу сродкаў.

Пазней створана была камісія для правядзення галасавання на кіруючыя пасады Рады горада і Управы. На першую сесію прыйшлі радныя ад усіх чатырох клубаў (СЛД — 10 радных, АВС — 8, БНВК — 7, „Разам” — 3). Гаварылася перад пасяджэннем, што паміж СЛД і БНВК завязалася кааліцыя, якая мае ў Радзе 17 галасоў і без клопатаў зможа выбраць свайго бурмістра ды старшыню Рады. Яшчэ перад галасаваннем радныя АВС сталі намагацца, каб паставіць кабіну для галасавання, што падчас перапынку было і зроблена.

Кандыдатамі на старшыню Гарадской рады сталі Яўген Сачко з БНВК і Здзіслаў Вятроўскі з АВС. У тайным галасаванні перамог Яўген Сачко, які набраў 16 галасоў (Здзіслаў Вятроўскі атрымаў 12 галасоў).

— Буду намагацца быць добрым старшынёю ўсіх радных, — гаварыў Яўген Сачко. — Трэба як найбольш карыстацца заўвагамі жыхароў горада і ўсе справы пастаянна з імі кансультаваць. Першыя пасяджэнні я хацеў бы так правесці, каб кожны адчуў, што ён патрэбны, каб не страціць ініцыятыву ўсіх радных.

Ужо падчас першага галасавання стала вядомым, што прынамсі адна асоба з кааліцыі СЛД і БНВК не галасуе згодна з дамоўленасцю клубаў. Паявіліся тады меркаванні, што магчыма радныя АВС і „Разам” дамовіліся між сабой даць супольнага кандыдата на бурмістра і дзеля гэтага ўгаварылі нейкія асобы з кааліцыі СЛД і ВНВК, каб падтрымалі іх у тайным галасаванні.

У тым часе былі яшчэ праведзены галасаванні на намеснікаў старшыні рады, якімі сталі Уладзімеж Тэтэрка з СЛД (атрымаў 26 галасоў) і Марыя Зданоўская з СЛД (атрымала 17 галасоў).

Кандыдатам на бурмістра кааліцыя СЛД і БНВК прапанавала Анатоля Ахрыцюка (СЛД), а клуб „Разам” — былую бурмістр — Ядвігу Рудзінскую-Патэюк (раней кіравала яна горадам ад СЛД), якую падтрымала таксама і АВС. Падчас першага галасавання Анатоль Ахрыцюк атрымаў 14 галасоў (не хапіла аднаго голасу, каб стаць бурмістрам), Ядвіга Рудзінская-Патэюк атрымала 13 галасоў, а адна асоба галасавала няправільна. Відаць было, што трое радных з кааліцыі СЛД і БНВК не галасавалі паводле кааліцыйнай дамоўленасці.

Старшыня Рады Яўген Сачко запрапанаваў тады перапынак, падчас якога радныя разышліся на пасяджэнні сваіх клубаў. Пасля, выслухаўшы яшчэ раз кандыдатаў на бурмістраў, не было ўжо неспадзевак. Бурмістрам стаў Анатоль Ахрыцюк з СЛД, які атрымаў 16 галасоў. Ягоны контркандыдат Ядвіга Рудзінская-Патэюк атрымала 12 галасоў.

— Трэба адказаць на пытанне: „Гайнаўка, куды ідзеш?” і распрацаваць

[працяг ☞ 3]

## *Бельскі самаўрад мае старшыню*

Калі здавалася, што ўжо нічога падчас урачыстай сесіі не здарыцца, здорава замяшаў Казімеж Ляшчынскі ад клуба „Jedność”, патрабуючы стварыць пастаянную камісію па справах сям'і і сямейнай палітыкі. Спасылаўся ён прытым і на папскія энцыклікі, і на дырэктывы Епіскапата Польшчы, і на ААНаўскія дакументы, і на тое, што Народная Польшча нішчыла сям'ю. Заклікаў ён калегаў радных абагрэць бельскія сем'і цяплом...

[з першых сесій ☞ 3]

## *Лёс беларускага ксяндза*

16 лістапада мінае сотая гадавіна з дня нараджэння вялікага беларускага патрыёта, святара, публіцыста і палітычнага дзеяча Вінцука Гадлеўскага. Быў ён адным з нешматлікіх беларускіх святароў, якія не адракліся свайго люду, пакутавалі за тое, што былі беларусамі.

[біяграфія ☞ 4]

## *Эх, і моладзь!*

Аўторак, 3 лістапада. Еду раннім цягніком у Беласток. У суседнім купэ сядзяць трое падлеткаў. У мае вушы міжвольна ўлятаюць словы суседа. Справы тычыліся не школы, а тыпова „мужчынскіх” спраў. А які пры гэтым быў слоўнік маладых „джэнтльменаў”? Лепш і не гаварыць!

[назіранні ☞ 5]

## *Тамара заваёўвае Амерыку*

Тамара Тарасевіч намалявала на чужыне каля 200 палоцен. Ёй хацелася таксама пераканацца, як яе творчасць прымуць амерыканцы. Выстаўка ў Галерэі Брандэнбург у Мастацкім Цэнтры Ларсена ў горадзе Канкакі перавысіла найбольш смелыя спадзяванні мастачкі.

[нашы за мяжой ☞ 8]

## *Беласток дзвюхканфесійны*

12 лістапада 1948 года Сабор епіскапаў ПАПЦ прыняў пастанову аб вылучэнні большай часткі Беластоцкага ды цэлай тэрыторыі Ольштынскага і Гданьскага ваяводстваў у асобную Беластоцка-Гданьскую епархію. Налічвала яна 43 прыходы, а ўзначаліў яе епіскап Цімафей.

[юбілей ☞ 9]

# Беларусь — беларусы

## „У Беларусі ідэальная сытуацыя"

**У пачатку кастрычніка ў Варшаве праходзіла міжнародная канфэрэнцыя па правах чалавека. Сёньня мы публікуем адказы славутага расейскага праваабаронцы Ўладзімера БУКОЎСКАГА на пытаньні карэспандэнта „Нашай Нівы" Зьміцера Бартосіка.**

***„Наша Ніва": — Пан Букоўскі, які Ваш прагноз на бліжэйшую будучыню Расеі?***

**Уладзімер Букоўскі:** — Яшчэ ў 93-м я пра гэта напісаў артыкул. Адзіны й непазьбежны сцэнар, што мне бачыцца, як найбольш рэалістычны — гэта распад Расеі на некалькі дзяржаваў. Артыкул я напісаў адразу пасьля рэфэрэндуму, на які я тады прыяжджаў у якасьці памочніка па просьбе ельцынскай каманды. Але апошні раз я тады зь імі меў справу. Я зразумеў, што толку ня будзе.

Вось паглядзіце на апошні крызіс і рэакцыю правінцыі. У 87-м ці 89-м рэгіёны замарозілі цэны і ўсталявалі мытны кантроль вакол сваіх абласьцей. Гэта першы крок да незалежнасьці. Палова суб'ектаў фэдэрацыі, якія былі донарамі, ня плоцяць падаткаў. І цалкам справядліва. Дарэчы, з гэтага пачалася амэрыканская рэвалюцыя й вайна за незалежнасьць. Але справа не ў сэпаратысцкіх настроях губэрнатараў. Сама сытуацыя іх будзе прымушаць рухацца ў гэтым кірунку далей і далей. І Далёкі Ўсход, думаю, будзе першым. Так непазьбежная фрагмэнтацыя Расеі. Але ў гэтым ёсьць плюсы й ёсьць мінусы. Плюс у тым, што Расея ніколі не будавалася як нармальная дзяржава, з фундамэнту да даху. Яе заўжды будавалі з даху, гэта значыць, з цэнтру. Ад бацюхны-цара. Ну ня можа так жыць дзяржава ў ХХІ ст. Але мінус у тым, што мы ня ведаем, як гэтыя фрагмэнты Расеі будуць упраўляцца. Бацькамі Махно ці парлямэнтамі? Жыць у міры ці ваяваць? А калі ваяваць, дык якою зброяй? А хімічныя заводы, а ядзерныя прадпрыемствы? На гэтым шляху ёсьць маса небясьпекаў. Але што гэта непазьбежны сцэнар разьвіцьця Расеі, я вам гарантую.

***— У Беларусі ўжо звыкліся з думкаю, што любы зьрок, які ў нас можа адбывацца, заўсёды знойдзе падтрымку на Ўсходзе. Праўда, мы, хай і за празрыстай, але за мяжой. Што Вы можаце сказаць пра рэакцыю расейскага грамадзтва на чачэнскую вайну?***

— Гэтая вайна асабіста мяне дабіла адсутнасьцю рэакцыі. Зразумейце, мы ў 60-я гады выходзілі на плошчы, калі за гэта палагалася тры гады. У 90-я можна было выйсьці мільёнам людзей, і ніхто б табе нават штрафу ня даў бы. Дзе ж гэтыя мільёны? Грамадзкая думка ў Расеі так і ня склалася. І ўсё, што мы рабілі трыццаць гадоў, пайшло псу пад хвост. Таму што адзінаю нашаю мэтай было адрадзіць у краіне грамадзкую думку.

***— Але, калі Чачня яе не пабудзіла, дык што тады здольнае яе адрадзіць?***

— Нішто. Краіна памерла. Чачня гэта прадэманстравала. І на сваім вяку я Расеі нармальнай так і не пабачу.

***— Пабачыць бы на нашым жыцьці нармальную Беларусь. У нас зараз пануе нейкая дурная дэпрэсія. Абсалютна незразумелая, таму што нашыя ўмовы ня ідуць ні ў якае параўнаньне з тою атмасфэраю, у якой пачыналі Вы.***

— Між іншым, умовы ў Беларусі зараз ідэальныя, каб грамадзкую думку разгайдаць. Менавіта зараз вам і ствараць незалежны, грамадзкі рух, які скіне лукашэнкаўскую намэнклятуру. А гэта прыйдзе. Паверце мне. У глыбіні гадоў усё гэта падаецца малаверагодным. А я ў 60-я гады ведаў, што савецкая сыстэма скончыцца, і што я гэта пабачу, калі не заб'юць. Пройдзе якіх пяць гадоў, і Лукашэнка гэты зьнікне, і ваша краіна будзе ўся кіпець. Калі ня мае сэнсу вучыцца й працаваць, людзі ідуць на барыкады. Але, калі ня будзе моцнай, грамадзкай сілы, каб заняць гэты вакуум, дык вас чакае такое ж дзярмо, як у Расеі. Ні то, ні сё, ні так, ні гэтак. Вашыя ўмовы, умовы перасьледу, ідэальныя для таго, каб адзяліць авец ад козьлішчаў. Каб зразумець, з кім можна мець справу, а з кім ні ў якім разе. Толькі ў такой сытуацыі й нараджаюцца сапраўдныя лідэры. У вас чамусьці назіраецца нешта адваротнае. Звычайна палітычныя рухі расколваюцца пры дзялёжцы здабычы, пры перамозе. А вашыя пачалі распадацца, яшчэ нічога не дабіўшыся. Ну, гэта дурнота. Зараз самы час каваць. Я ўпэўнены, што Лукашэнка больш за пяць гадоў не пратрымаецца. Зараз крызысы ў Расеі пойдуць адзін за адным. І пры такім раскладзе, калі ў Расеі крызыс, а ў вас у пяць разоў горш, каму ён у тым вакууме будзе патрэбны?

***— А якой вам бачыцца ў нашай сытуацыі роля Захаду?***

— О, на Захад не спадзявайцеся. Я тут жыву больш за дваццаць гадоў і магу ўпэўнена сказаць, што Захад ніколі нічога путнага не зрабіў. Аднойчы яны пры Рэйгане й Тэчар паднацісьнулі, абанкруцілі Савецкі Саюз і не дабілі да канца. Таму спадзявайцеся толькі на ўласныя сілы. На Захадзе калі будуць нейкія асобныя людзі, якія вам дапамогуць — слава Богу, скажыце «дзякуй». А на Захад, як такі... У іх сваіх праблемаў хапае.

***— Значыцца, „Ялта" працягваецца?***

— А яна ў іх з галавы й не выходзіла. У іх ніколі не было жаданьня пабароць СССР ці зруйнаваць савецкі рэжым. Ніколі, паверце мне. Я гэтым займаўся 20 зь лішнім гадоў. Толькі наша прапаганда сьцьвярджала, што ёсьць нейкія падрыўныя цэнтры. Нічога не было. Я сам шукаў гэтыя цэнтры. Ніводнага не знайшоў. Яны хацелі толькі аднаго — дамовіцца з СССР, каб мірна падзяліць сфэры ўплыву. Усё. І мы ім былі, як костка ў горле. Я знайшоў на Захадзе болей ворагаў, чым у мяне іх было ў Расеі. І куды менш сяброў. Таму на іх ніколі не разьлічвайце. Сьцьвердзіцца Лукашэнка, яны яго прызнаюць. Разам зь ягоным „парлямэнтам".

***— Але з падзеньнем лукашэнкаўскага рэжыму адносіны паміж нашымі краінамі пахаладнеюць...***

— Сёньняшняе маладое пакаленьне расейцаў Захад ня любіць. І справядліва. Такая ж нелюбоў будзе й у беларусаў да Расеі. На жаль. Таму што Расея ў адносінах да Беларусі паводзіць сябе настолькі ж цынічна, як Захад у адносінах да Расеі. Але ведаеце, гэтыя рэчы праходзяць. Палякі нас вельмі не любілі. Ненавідзелі расейцаў. І цалкам слушна. Колькі іх дзялілі й акупавалі. Зараз ідэальныя адносіны. Калі вам хто дапамагаць будзе, то перш-наперш палякі. Я нядаўна гаварыў зь іх прэм'ер-міністрам. Ён запытаў, што зрабіць для Расеі. Я яму кажу, не для Расеі. Вам зараз трэба ўсё для Беларусі рабіць. Вось там вы можаце дапамагчы рэальна. Расеі зараз нічым не дапаможаш. Беларусы вам шчыра сымпатызуюць. Блізкая нацыя, роднасныя мовы. Колькі вякоў у адной вупражцы. І ніхто іншы, як палякі, вам не дапаможа. Можа быць, яшчэ Літва. Але ў вашай сытуацыі, у якой добра бачна, дзе чорнае, а дзе белае, дабро ня можа не перамагчы. Таму ў вас наперадзе пяць гадоў цяжкай працы. Але яна акупіцца спаўна.

*Наша Ніва, № 20 (117), 1998 г.*

## Правы чалавека ў Беларусі

**(люты — кастрычнік 1998 г.)**

У Беларусі пачынаць арыштоўваць за палітычную прыналежнасьць.

2 верасня 1998 г. трое сяброў Віцебскай рады БНФ, Уладзімір Плешчанка, Барыс Хамайда і Юры Карпаў былі затрыманы. Іх падазраюць ва ўдзеле ў справе, звязанай са зьнікненнем бюста расейскага палкаводца А. Суворава ў Віцебску. Пасля затрымання Б. Хамайду і Ю. Карпава даставілі ў РАУС Кастрычніцкага раёна г. Віцебска, дзе пратрымалі больш за сем гадзін. Была ўзбуджана крымінальная справа па арт. 225 КК РБ — „знішчэнне гісторыка-культурных каштоўнасцяў" (2 гады папраўчых работ або штраф), а таксама арт. 87 КК РБ — „крадзёж маёмасці" (да трох гадоў папраўчых работ альбо штраф). 3 верасня Уладзімір Плешчанка быў затрыманы на трое сутак паводле 119 арт. КК РБ, а затым змешчаны ў СІЗА г. Віцебска.

Гэта ўжо не першае неабгрунтаванае затрыманне сяброў Віцебскай Рады БНФ. Падчас правядзення ў ліпені 1998 г. традыцыйнага эстраднага фестывалю „Славянскі базар" яны былі затрыманы тройчы. Два затрыманні былі праведзены падчас выступлення прэзідэнта А. Лукашэнкі. Сябры Віцебскай рады БНФ былі абвінавачаны ў згвалтаванні малалетняй. Іх пратрымалі 3 гадзіны у РАУС Кастрычніцкага раёну г. Віцебска і адпусцілі без тлумачэнняў.

*З рапарту Праваабарончага цэнтра „Вясна-96"*

## Дапамога беларусам Беласточчыны

Абмен кнігамі і перыядычнымі выданнямі паміж Польшчай і Беларуссю спыніўся ў канцы васьмідзесятых гадоў. З гэтай пары нельга ў нас падпісацца на беларускія газеты і часопісы ці купіць мінскія кніжныя выданні. Выходзячы насустрач пастулатам нашых культурна-асветных асяроддзяў, беларускі бок вырашыў дапамагчы беларусам Беласточчыны.

Як паведаміла Генеральнае консульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку, са студзеня бягучага года Міністэрства адукацыі РБ аформіла падпіску газет і часопісаў на патрэбы школ. У Цэнтр па ўдасканаленні настаўнікаў у Беластоку передаюцца па 9 экземпляраў „Літаратуры і мастацтва", „Пачатковай школы", „Настаўніцкай газеты", „Адукацыі і выхавання", „Роднага слова" і „Беларускага часопіса", а па 45 экземпляраў — „Пралескі", „Спадчыны", „Сям'і" ды „Вясёлкі".

Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей РБ дасылае ў нашу рэдакцыю кожны тыдзень „ЛіМ", „Культуру", „Звязду" і „Рэспубліку" і запэўнівае, што такая практыка будзе працягвацца і ў наступным годзе. Дзяржкамітэт плануе таксама набыць для нашай рэдакцыі 18-томную „Беларускую энцыклапедыю". Беларускім ведамствам сардэчна дзякуем за дапамогу, а Генконсульству — за садзеянне ў выкананні нашых прапаноў.

**Віталь Луба, галоўны рэдактар „Нівы"**

## Пакража ў рэдакцыі „Навін"

2 лістапада г.г. у рэдакцыі беларускай апазіцыйнай газеты „Навіны" ўкралі чатыры камп'ютэры і факс. У камп'ютэрах былі запісаны архівы газеты, тэкставыя файлы, зборы даных і каля 2 тысяч фатаграфій. „Нельга выключыць, што была гэта работа сакрэтных службаў. Некаторыя дарагія ў продажы прылады — манітор, кампакт-дыск і вельмі каштоўны японскі тэлевізар — засталіся някранутымі" — сказаў галоўны рэдактар „Навінаў" Ігар Гермянчук. І. Гермянчук заявіў, што газета не спыняецца — рэдакцыйны калектыў шукае асобы, якая пазычыць рэдакцыі новыя камп'ютэры. У мінулым годзе газету, якая выходзіла ў той час пад загалоўкам „Свабода", улады забаранілі за артыкулы, у якіх прадстаўляліся погляды палітычных праціўнікаў беларускага прэзідэнта А. Лукашэнкі. Пасля двух месяцаў газета ўзнавілася пад загалоўкам „Навіны".

*RFE/RL Newsline, 3.11.1998*

## Канец беларускага эканамічнага „цуду"?

Паводле афіцыйных даных з мінулага месяца, прамысловая вытворчасць у верасні ўпала на 4,5% у параўнанні з жніўнем. Інфляцыя ўзрасла з 3,8% у жніўні да 17,6%. У той жа час міністэрства статыстыкі заявіла, што валавы прадукт за першыя дзевяць месяцаў года павялічыўся на 10%. У гэтым тыдні міжбанкаўскі курс беларускага рубля скочыў з 250 тыс. на 300 тыс. за 1 дол. ЗША (афіцыйны курс — 58 600 за 1 дол. ЗША). „Беларускі цуд завяршыўся, даказваючы, што ў эканоміцы цудаў не бывае" — сказаў Ройтэру 3 лістапада г.г. аналітык Беларускага нацыянальнага банка. Ён дадаў яшчэ, што экспарт у Расію склаў 55% мінулагодняга экспарту.

*RFE/RL Newsline, 4.11.1998*

# Шматлікія галасаванні ў Нарве

Першае пасяджэнне новай Гміннай рады ў Нарве прайшло 30 кастрычніка 1998 года. Пасля прысягі і ўручэння радным пасведчанняў адбыліся выбары старшыні Рады. Прапанаваліся два кандыдаты: Мікалай Кандрацюк з Сацоў і Сцяпан Кучынскі — лекар з Ласінкі. Радныя падзяліліся на дзве роўныя групы і 5 чарговых галасаванняў не дало рэзультату. Кожны кандыдат атрымліваў па 9 галасоў і толькі шостае галасаванне аказалася вырашальным: Мікалай Кандрацюк атрымаў 11 галасоў і стаў старшынёю Рады, а ягоны контркандыдат Сцяпан Кучынскі атрымаў 7 галасоў. Пасля адбыліся 4 галасаванні на намесніка старшыні рады, але яны таксама нічога не вырашылі і радныя перайшлі да выбару войта. Гэтая працэдура зацягнулася ажно да вечара.

Войтам хацела стаць шэсць кандыдатаў і радныя вырашылі, што да другога галасавання пяройдуць толькі тыя кандыдаты, якія набяруць найбольш галасоў. У першым галасаванні найбольшую падтрымку меў былы войт Ян Іванюк (5 галасоў). На другім месцы апынуліся Якуб Садоўскі (4 галасы) і Мікалай Яноўскі (4 галасы). Колішні войт Ян Тапалянскі атрымаў 3 галасы. Наменснік кіраўніка Прадпрыемства н-р 1 нарваўскага „Пронару" Марыюш Нацкоўскі атрымаў 2 галасы, а Эдвард Катовіч з Анцутау не атрымаў ніводнага голасу. У другім галасаванні найменшую падтрымку меў Мікалай Яноўскі (3 галасы), які вёў на Гайнаўшчыне выбарчую кампанію ад імя БНВК. На гэты раз перамог ужо Якуб Садоўскі, які набраў 8 галасоў, а Ян Іванюк атрымаў 7 галасоў. Каб стаць войтам, трэба было атрымаць больш чым палову галасоў (у выпадку Нарвы — 10), таму трэцяе і чацвёртае галасаванні былі невырашальнымі (III галасаванне — Я. Садоўскі — 9 галасоў; Я. Іванюк — 8 галасоў; 1 голас няважны; IV галасаванне — Я. Садоўскі — 9 галасоў; Я. Іванюк — 7 галасоў і 2 галасы няправільныя). Толькі за пятым разам удалося выбраць войта і стаў ім Якуб Садоўскі (11 галасоў).

— Хачу выкарыстаць дабрадзействы ракі Нарвы, выдзеліць рэкрэацыйныя ўчасткі, каб прыдбаць сродкі гміне ад іх продажу і мець пастаянныя грошы з падаткаў, — сказаў Якуб Садоўскі, новаабраны войт Нарваўскай гміны, выпускнік юрыдычнага факультэта Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку, былы працаўнік паліцыі і дзяржаўнай бяспекі, а ад гэтага года пенсіянер, які з сям'ёю пражывае ў Беластоку, але сам выводзіцца з Тыневіч-Вялікіх. — Буду ставіць на развіццё агратурызму. Паколькі чыстае яшчэ асяроддзе, добра было б развіваць і экалагічную сельскагаспадарчую вытворчасць. Трэба будзе рамантаваць дарогі і займацца водаправодамі, сродкі на якія будзем шукаць у розных фондах. Што тычыцца пабудовы школ на вёсках, а канкрэтна гаворачы школы ў Ласінцы, дык я прыхільнік кантэйнерных школ, як, напрыклад, школа н-р 5 у Беластоку. Трэба будзе звяртаць большую ўвагу на рэкламу прадуктаў нашай гміны, на развіццё культуры. Паколькі гміна тыпова беларуская, трэба будзе выкарыстаць шматкультурнасць, каб выклікаць большае зацікаўленне звонку.

**Аляксей Мароз**

# Амбітныя планы бурмістра

29 кастрычніка 1998 г. адбылося ўрачыстае пасяджэнне новай Рады горада ў Кляшчэлях. Пасля цырымоній, якія спадарожнічаюць інаўгурацыйнай сесіі прыйшоў час выбару старшыні Рады горада і яго намесніка. Падліковая камісія зарэгістравала двое кандыдатаў: Таісу Санчэнка і Рыгора Барону. У час выбараў перамог гэты другі.

Пры выбары намесніка старшыні Рады з'явіліся начакана праблемы. Таіса Санчэнка адказалася стаць другі раз кандыдатам. „Калі радныя адмоўна паставіліся да маёй асобы за першым разам, — заявіла, — дык і зараз не хачу стаць намеснікам". Адказаўся ад кандыдавання на гэту пасаду і другі з рэкамендаваных, Міхал Календа. Толькі за трэцім разам дэпутаты прагаласавалі за Крыстыну Кананюк.

Калі было выбрана кіраўніцтва Рады, радныя заняліся выбарам бурмістра. Радны Шэвяк запрапанаваў кандыдатуру Аляксандра Сяліцкага. „Добра праверыўся ў мінулай кадэнцыі, — гаварыў прамоўца, — гэта сапраўдны гаспадар і добры арганізатар. Пры Сяліцкім наша гміна дабілася немалых поспехаў. І зараз, пазнаёміўшыся з выбарчай праграмай гэтага кандыдата, можна спадзявацца не меншых дасягненняў у развіцці мястэчка і гміны". Гэтую рэкамендацыю падтрымала радная Філіновіч. Затым выступіў Мар'ян Літвіновіч, які вынес сваю кандыдатуру на пасаду бурмістра. Сказаў ён: „Лічуся бізнесменам. Стаўшы бурмістрам, задбаю пра асвету і развіццё выхаваўчых цэнтраў. Буду дапамагаць іншым у развіцці гаспадарчай дзейнасці. Важнай справай лічу турызм, таксама як і шыкарныя дарогі і бяспечнасць грамадства ў штодзённым жыцці. Хачу адмяніць адносіны чыноўнікаў гарадской управы да наведвальнікаў. Лічу, што мая кандыдатура з'яўляецца адной з лепшых..."

З выбарчай праграмай выступіў другі з кандыдатаў, Аляксандр Сяліцкі, які падкрэсліў небывалую рэч у пасляваеннай гісторыі Кляшчэляў; у склад новай Рады поўнасцю ўвайшлі новыя людзі. Ніхто са старых дэпутатаў не быў выбраны.

— Апошнія чатыры гады, — гаварыў Аляксандр Сяліцкі, — сведчаць выразна аб захаванні дынамікі развіцця гміны. Аднак многае яшчэ перад намі. У гэтай кадэнцыі самай важнай справай будзе пабудова вадасховішча ў Рэпчыцах. Гэта аграмадная інвестыцыя, вартая 5 мільёнаў злотых. Неабходная мадэрнізацыя вуліц у Дашах і Тапарках. Дарогай да Жукоў таксама трэба заняцца. Але чаргавасць рэалізацыі паасобных інвестыцый будзе разгледжана Радай пазней.

Намагаемся правесці мадэрнізацыю тратуараў, парку, рыначнай плошчы, камунальных асяродкаў па былым ПОМе. Да 2001 года кожны з жадаючых жыхароў нашай гміны зможа паставіць сабе дамашні тэлефон. Спартыўная пляцоўка патрабуе неадкладнай мадэрнізацыі, будзе таксама добраўпарадкавана плошча пры купальным басейне. Плануецца пабудова будынка на патрэбы спартыўных каманд і для балельшчыкаў.

Выкарыстоўваючы якасці мясцовага краявіду пастараемся пабудаваць сцежкі для пешых, стаянку для аўтамабіляў, каб турысты праязджаючы дарогай на пагранічны праезд у Палаўцах змаглі захапляцца нашым мястэчкам. Аднак самай важнай для нас справай будзе пабудова вадасховішча ў Рэпчыцах, — закончыў сваё выступленне кандыдат на бурмістра Аляксандр Сяліцкі.

Пачаліся выбары бурмістра. Хвіліна задумы дэпутатаў і праз некалькі хвілін старшыня падліковай камісіі чытае пратакол: „Бурмістрам застаецца Аляксандр Сяліцкі".

**Уладзімір Сідарук**

# У гміне Гайнаўка новыя ўлады

27 кастрычніка 1998 года адбылося першае пасяджэнне Рады гміны Гайнаўка, у час якога прадбачваўся выбар старшыні і войта. Спачатку старшыня Гміннай выбарчай камісіі Міраслаў Раманюк уручыў радным пасведчанні аб выбары, а ўсе абраннікі далі прысягу. За пасаду старшыні Гміннай рады змагаліся трое кандыдатаў: Ян Грыгарук з Дубіч-Асочных, Вольга Саевіч з Навасадаў і Сцяпан Садоўскі з Пасталова. Перамог Ян Грыгарук, які быў старшынёю рады папярэдняга склікання. Яго намеснікамі сталі: Вольга Саевіч з Навасадаў і Галіна Парфянюк з Хітрай.

На пасаду войта прапанаваўся толькі адзін кандыдат, Вольга Рыгаровіч, якую выбралі аднагалосна.

— Каб быў у нас іншы войт, не дабіліся б мы столькі, колькі маем, — сказаў радны са Старога Беразова Грыша Мароз. — Колькі яна наездзілася ў розных справах, але свайго дабівалася, калі вырашыла ўжо нешта рабіць. А вынікі працы войта і папярэдняй рады відавочныя на кожным кроку. Вада ўва ўсіх вёсках ужо даўно, а нядаўна ў Старым Беразове і Махнатым зрабілі 4,5 км каналізацыі, якую думаем рабіць і ў іншых вёсках. А колькі ж дарог давялі да парадку і правялі іншых інвестыцыяў!

Намеснікам войта стаў намеснік і сакратар рады папярэдняга склікання Мікалай Кандрацюк. Войт Вольга Рыгаровіч прапанавала пяць кандыдатаў ва Управу гміны, з ліку якіх чатырох атрымала падтрымку радных, а менавіта: Мікола Баравік з Арэшкава, Грыша Мароз са Старога Беразова, Аляксандр Астапчук з Навакорніна і Ян Скепка са Звадзецкага. Паколькі рада не працавала ўжо некалькі месяцаў, на сесіі ставіліся і актуальныя праблемы гміны. Радныя вырашылі аб далейшым фінансаванні рамонту дарогі ў Пасечніках і вырашылі перадаць энергетычную лінію Энергетычнаму прадпрыемству ў Бельску-Падляшскім.

**Аляксей Мароз**

# Бельскі самаўрад мае старшыню

Нававыбраная Гарадская рада Бельска на сваім першым пасяджэнні, 3 лістапада, абмежавалася адно да неабходнага, гэта значыць, да выбару свайго старшыні ды вызначэння і названня пастаянных камісій Рады.

Пачалося ўсё куртуазна, ад падзякі старой Радзе, яе старшыні Васілю Ляшчынскаму, Гарадской управе і бурмістрам: Андрэю Сцепанюку і Яўгену Беразэйцу. Выбары старшыні прайшлі без неспадзяванак. Кандыдат права-каталіцкага клуба „Jedność" Міраслаў Крупэўскі атрымаў 10 галасоў, а яго канкурэнт ад Бельскай кааліцыі Януш Панасюк (СЛД) 16 галасоў і стаў старшынёй Гарадской рады Бельска трэцяга склікання.

— У сваёй працы хацеў бы я працягваць усё тое добрае, што ўнеслі мае папярэднікі на гэтай пасадзе, Багдан Завалых і Васіль Ляшчынскі, — сказаў ён у экспасе. — Дзякуй маім кааліцыянтам за галасы аддадзеныя на маю асобу, а асабліва Саюзу ўкраінцаў Падляшша і, асабіста, Пятру Кандрацюку, які мог бы паспяхова выконваць гэтую функцыю. Дзякуй калегам з Беларускага выбарчага камітэта і Саюзу левых дэмакратаў за цвёрдыя, але канкрэтныя кааліцыйныя размовы. Гэта былі размовы сур'ёзных людзей, гатовых несці адказнасць за гораду бліжэйшым чатырохгоддзі.

Калі здавалася, што ўжо нічога падчас урачыстай сесіі не здарыцца, здорава замяшаў Казімеж Ляшчынскі ад клуба „Jedność", патрабуючы стварыць пастаянную камісію па справах сям'і і сямейнай палітыкі. Спасылаўся ён прытым і на папскія энцыклікі, і на дырэктывы Епіскапата Польшчы, і на ААНаўскія дакументы, і на тое, што Народная Польшча нішчыла сям'ю. Заклікаў ён калегаў радных абагрэць бельскія сем'і цяплом, а не займацца толькі такімі бяздушна-тэхнічнымі справамі, як бюджэт ці падаткі.

Мяне здзівіла тое, што ніхто з радных коратка і ясна не растлумачыў спадару Ляшчынскаму, што цяплом то сам можа абаграваць сваю сям'ю, а найважнейшае заданне самаўрада — якраз распрацоўка і прыняцце штогоду бюджэту гміны. І яшчэ тое, што з такой дэмагогіяй выступіў чалавек, які яшчэ чатыры гады таму сам быў бурмістрам.

Першае дысцыплінаванае галасаванне і выбар старшынёй Рады прадстаўніка СЛД добра прарочыць Беларускаму выбарчаму камітэту. Лагічна думаючы, адзіным кандыдатам Бельскай кааліцыі на бурмістра павінен быць цяперашні ўладар горада Андрэй Сцепанюк.

**Мікола Ваўранюк**

# Кіраваць будуць эканамісты

[1 ☞ працяг]

стратэгію для Белавежскай пушчы, — гаварыў Анатоль Ахрыцюк, 40-гадовы намеснік дырэктара па эканамічных справах і гандлі Машыннага прадпрыемства „Гамех" у Гайнаўцы, выпускнік эканамічнага факультэта Люблінскага універсітэта. — У сваёй працы буду намагацца скараціць беспрацоўе, спыніць выезд людзей і вываз грошай з Гайнаўкі. Будзем старацца ажывіць Гайнаўку гаспадарча, разбудоўваць тэхнічную структуру горада, а перад усім, перабудоўваць кацельні на экалагічныя і разбудоўваць каналізацыю.

Кандыдатаў на намесніка бурмістра і членаў Управы горада прапанаваў ужо новы бурмістр Анатоль Ахрыцюк і ўсе яны перайшлі ў першым галасаванні, атрымліваючы па 18 галасоў.

Намеснікам бурмістра стаў Міраслаў Мордань, 30-гадовы кіраўнік транспарту і забеспячэння ў Прадпрыемстве вадаправодаў і каналізацыі ў Гайнаўцы, выпускнік эканамічнага факультэта Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку і радны БНВК. Ва Управу горада ўвайшлі яшчэ Мікалай Галёнка (БНВК), Ірэна Бараноўская (СЛД) і Ян Верамюк (СЛД).

**Аляксей Мароз**

*Фота Тэрэсы Валкавыцкай*

Да стагоддзя з дня нараджэння Вінцука Гадлеўскага

# Лёс беларускага ксяндза

**16 лістапада мінае сотая гадавіна з дня нараджэння вялікага беларускага патрыёта, святара, публіцыста і палітычнага дзеяча Вінцука Гадлеўскага. Быў ён адным з нешматлікіх беларускіх святароў, якія не адракліся свайго люду, дзялілі яго лёс, пакутавалі за тое, што былі беларусамі.**

Вінцук Гадлеўскі нарадзіўся 16 лістапада 1898 г. у Поразаве, што ў Свіслацкім раёне. У 1912 г. скончыў Віленскую каталіцкую семінарыю, а чатыры гады пазней — Пецярбургскую духоўную акадэмію. У Пецярбургу Гадлеўскі быў адным са стваральнікаў беларускай суполкі, якая гуртавала студэнтаў і прафесараў Акадэміі. Дзякуючы фінансавай дапамозе княгіні Магдалены Радзівіл удалося яму стварыць бібліятэку, якая стала важным цэнтрам беларускага інтэлектуальнага жыцця ў сталіцы Расіі.

У 1917 г. лютаўская рэвалюцыя адкрыла ўсім народам імперыі Раманавых дарогу да свабоды і незалежнасці. Вінцук Гадлеўскі, як адзін з першых уключыўся ў працэс пабудовы беларускага народа і дзяржавы. Быў ініцыятарам склікання з'езду ксяндзоў-беларусаў у сакавіку 1917 г. і стварэння каталіцкай арганізацыі, мэтай якой была б дзейнасць у карысць пабудовы беларускай дзяржаўнасці. Прапанаваў рабіць тое, што рабілі ксяндзы-палякі, якія вялі польскую палітычную агітацыю.

Вінцук Гадлеўскі ўдзельнічаў ува ўсіх палітычных падзеях, якія вялі да стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі ў сакавіку 1918 г. Быў членам Рады БНР і вялікім прыхільнікам замацавання яе незалежнасці. Пасля падзелу Беларусі паміж Польшчай і Савецкай Расіяй у 1921 г. Гадлеўскі не спыніў сваіх намаганняў дзеля стварэння ўмоў для адраджэння народа і дзяржаўнасці. Быў адным са стваральнікаў і лідэраў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, рэдактарам „Крыніцы", але перш за ўсё, як святар, штодзённа паказваў вернікам-беларусам, што Бог таксама добра разумее беларускую мову, так як польскую ці рускую. У Польшчы, дзе Каталіцкі касцёл меў выконваць паланізацыйную місію, дзейнасць Гадлеўскага выклікала рэакцыю не толькі дзяржаўных улад, але таксама каталіцкай іерархіі. Пакуль аднак у Вільні архіепіскапам быў Юры Матулевіч, у шмат якіх парафіях на Віленшчыне, Наваградчыне, Гродзеншчыне ці Беласточчыне ксяндзы падчас багаслужбаў карысталіся беларускай моваї, а ў касцёлах можна было набыць „Крыніцу", якая друкавалася на беларускай мове. Праўда, час ад часу некаторых ксяндзоў, як Становіча ў Свянцянах ці Пятроўскага ў Барунах, мясцовыя ўлады замыкалі ў турму за „прапагандаванне беларускага нацыяналізму", але архіепіскап Матулевіч ніколі не пагаджаўся з такой палітыкай.

Сітуацыя змянілася ў 1925 г., калі архіепіскапам віленскім стаў Рамуальд Ялбжыкоўскі. У змаганні са святарамі-беларусамі ўлады знайшлі ў яго асобе вялікага саюзніка. Вінцук Гадлеўскі быў тады настаяцелем у Жодзішках Свянцянскага павета. Праз кароткі час з'яднаў вакол сябе большасць тамашніх парафіян. Яго казанняў на беларускай мове слухаў натоўп вернікаў. На заканчэнне багаслужбы паўтараў ён казанне на польскай мове, але тады аставалася ў касцёле 20-25 чалавек. Усё гэтае пярэчыла палітыцы ўлад і архіепіскапа Ялбжыкоўскага. Паліцыя правакавала канфлікты, тэрорам прымушала вернікаў-беларусаў адрачыся ад свайго настаяцеля. Першы раз Гадлеўскага арыштавалі ў чэрвені 1925 г., але не пабаяўся ён здзекаў з боку ўлад і далей гаварыў пропаведзь на беларускай мове. Другі раз арыштавалі яго 30 верасня 1925 г. і засудзілі на два гады турэмнага зняволення. Абвінавачвалі яго ў падбухторванні вернікаў да антыдзяржаўнага бунту, камуністычнай прапагандзе, закліках да змагання за незалежную Беларусь.

У Жодзішкі тым часам архіепіскап Ялбжыкоўскі прыслаў ксяндза Рамуальда Дроніча, які ў першы дзень свайго настаяцельства пісаў свайму начальніку: „W imię Ojca i Syna i Ducha Świętego. Amen. Ja niegodny sługa Boży, przysięgam i obiecuję Panu Bogu Wszechmogącemu, w Trójcy Świętej Jedynemu, Najświętszej Pannie co w Ostrej świeci Bramie, że nie będę odprawiał jakichkolwiek nabożeństw w języku białoruskim, ani też mówił kazań w tym języku. Tak mi dopomóż Panie Boże i Niewinna Męka Zbawiciela mego. Amen". Пару тыдняў пасля напісаў: „Prawie wszyscy tzw. Białorusini w Żodziskiej parafii chcą słyszeć swoją gwarę w kościele nie dla miłości i przywiązania do niej, lecz dlatego by podkreślić swoje prawa, a ich prawa to wszechwładztwo motłochu".

Ксёндз Гадлеўскі прасядзеў у турме з перапынкамі да 1929 г. Калі выйшаў на свабоду, не атрымаў парафіі і стаў капеланам у адным з віленскіх шпіталяў. Не пакідаў дзейнасці на беларускай ніве. Шмат пісаў у „Крыніцу", якая па распараджэнні архіепіскапа Ялбжыкоўскага была часопісам забароненым для чытання святарамі і вернікамі-католікамі Віленскай епархіі. У 1930 г. Гадлеўскі пераклаў на беларускую мову *Евангелле*, якое было выдадзена ў Вільні пару месяцаў да пачатку вайны.

Гадлеўскі быў прыхільнікам яднання ўсіх беларускіх сіл для абароны ад знішчальнай палітыкі касцельных і дзяржаўных улад. Бачыў, як для паланізацыі вернікаў выкарыстоўвалася Праваслаўная царква. У 1936 г. стаў рэдагаваць палітычны часопіс „Беларускі фронт", адрасаваны да эліты. Прадчуваў набліжэнне вайны і хацеў падрыхтаваць да новай сітуацыі беларускую інтэлігенцыю. Бальшавікам не верыў. У 1939 г. спачатку выехаў у Коўна, а напярэдадні савецкай акупацыі Літвы перайшоў мяжу нямецкай зоны.

Гадлеўскі, як і шмат іншых беларускіх патрыётаў, лічыў непазбежным нямецка-савецкі канфлікт. Разлічваў таксама, што ў інтарэсе Нямеччыны будзе стварэнне беларускай дзяржаўнасці. Пачаў працаваць у гэтым напрамку. У чэрвені 1941 г. стаў журналістам беларускай рэдакцыі Берлінскага радыё, а ў верасні — галоўным школьным інспектарам пры Камісарыяце Беларусь.

Ад немцаў, якіх лічыў саюзнікамі, Гадлеўскі чакаў іншай палітыкі ў адносінах да свайго народа чым тую, якую вялі палякі і бальшавікі. Замест дзеянняў у карысць беларусізацыі бачыў толькі зверствы і цынізм акупантаў. Адміністрацыя ў Заходняй Беларусі надалей была ў руках палякаў. Гадлеўскі вырашыў ствараць беларускія структуры, незалежныя ад акупацыйных улад. Немцам перастаў давяраць і разглядаць іх як саюзнікаў. Лічыў, што сілай, якая магла б прывесці Беларусь да незалежнасці, магла быць толькі воля беларускага народа. Але такую волю трэба было ствараць. Не паспеў у гэтым напрамку зашмат зрабіць.

Вінцук Гадлеўскі быў арыштаваны гітлераўцамі 24 снежня 1942 г. і неўзабаве закатаваны ў менскай турме. Яго смерць выклікае шмат пытанняў, але асноўнае з іх — хто паспрыяў такому завяршэнню яго жыцця. Астаецца яно надалей нявысветленае, так як смерць Францішка Аляхновіча, Уладзіслава Казлоўскага і шмат іншых, якім снілася свабодная Беларусь.

**Яўген Мірановіч**

# Блізкія і далёкія

Успаміны Ніны Мінько п.з. „Гулялі ў турму" („Ніва" н-р 41), лічу найбольш справядлівымі і канкрэтнымі. Аўтарка не адносіцца варожа да рускіх, бо іх лёс быў цяжкі, толькі праўду пра іх кажа. А праўда такая, пра што і я часта паўтараю: у найцяжэйшых абставінах рускія ўмеюць паказаць свае сэрца, дабрату і спагаду, а найбольш для дзяцей. Гэтая ісціна яскрава паказвае характар рускай душы. І бальшавізм гэтай душы свайго народа не перайначыў, хаця, як расказваў мой бацька, які правёў сем гадоў у бежанстве ў Омску, і пры бальшавізме дзяцей-сірот даглядалі не горш, чым пры цары. Бо і сярод бальшавікоў былі парадачныя людзі, як пры кожнай зрэшты ўладзе.

Чытаючы ўспаміны польскіх лагернікаў часта даведваемся, што было ім там цяжэй, чым пад гітлераўскай акупацыяй. Думаю, што спрачацца з імі не варта. Напэўна цяжка было тым, якія прайшлі ссылку, але цяжка там было ўсім, у тым ліку і карэнным жыхарам Сібіры.

Калі, вярнуўшыся на радзіму, Ніна Мінько папрасіла ў свайго дзеда яйка, той адмовіў ёй. І вось параўнайма характары і душы сваіх блізкіх і тых далёкіх у глыбі Расіі. І разбярэмся, дзе праўда. А прымаўка гаворыць: бяда яднае, а багацце разлучае.

**Мікалай Панфілюк**

# Камандзір пчалінай арміі



Сцяпану Паленіку, вопытнаму пчаляру з Гайнаўкі 15 лістапада г.г. споўніцца 85 гадоў. Яшчэ і цяпер ён адчувае сябе бадзёра, нічым не стамляецца. Сам сцвярджае, што добрае здароўе ў яго — дзякуючы заняткам з пчоламі. Пасеку вядзе ён ад 1920 года. У тым жа годзе яго бацька (таксама Сцяпан) купіў быў яму дзве пчаліныя сям'і, а год пазней яшчэ тры ды пачаў вучыць сына, як абыходзіцца з гэтымі карыснымі насякомымі. Было гэта ў Шымках (Міхалоўская гміна), дзе ўвесь час жылі яго бацькі.

Цяпер мае ён 40 вуллёў і збірае тону мёду ў год — шматкветнага, грэчневага, рапсавага, ліпавага. Свае пасекі трымае ў Нязнаным Бары (Белавежская пушча), Шымках і ў Гайнаўцы. Дваццаць гадоў Сцяпан Паленік старшынстваваў пчалярскай арганізацыі на Гайнаўшчыне (налічвала яна 240 членаў). Цяпер ён ганаровы старшыня гуртка гайнаўскіх пчаляроў. Яго ўзнагародзілі Залатым крыжам заслугі.

С. Паленік нікому не адмовіў, калі хто-небудзь з пчаляроў звярнуўся да яго за парадай. Ён — актыўны карэспандэнт спецыялістычных перыядычных выданняў. Мае багатую хатнюю бібліятэку, якую думае перадаць у Гайнаўскі музей.

У нашым рэгіёне гадуюць перш-наперш пчол парод „Карніка" і „Каўказская", а таксама іх гібрыды. На працягу дня гэтыя працавітыя насякомыя могуць зрабіць дваццаць палётаў на адлегласць 300 метраў, але бываюць палёты і за 4-5 кіламетраў. Сям'я з 70-90 тысяч асобін на працягу аднаго сезона нарыхтоўвае каля 20 кілаграмаў мёду. І варта прытым адзначыць, што не ўсе пчолы займаюцца выключна вытворчасцю мёду. Гэта належыць да абавязкаў работніц. Іншыя маюць другія задачы: будуць гэта карміцелькі, вытворцы воску, носьбіткі вады, кветкавага пылку і нектару, а таксама прыбіральшчыкі.

Пчолы не любяць паху часнаку і цыбулі ды ўрэшце духоў. Вопратка пчаляра павінна быць светлага колеру, найлепш з ільну. Сцяпан Паленік у сваёй пасецы ходзіць без драцянай сеткі для аховы твару і без рукавіц.

З пункту гледжання пчаляра бягучы год Сцяпан Паленік ацэньвае як сярэдні. Шмат было дажджлівых дзён. Вясна была асабліва спрыяючай для пчол. Затым крыху пазней — летам — сабралі яны шмат нектару і кветкавага пылку з ліпы, а таксама падзі. Сёлета, як рэдка калі, багатымі ў нектар былі верасы.

**Янка Целушэцкі**

Іпаліт Краскоўскі

# Іцка крамар

*(заканчэнне; пачатак у 41 н-ры)*

VII

Стралец хутка ачуняў. Разам дасталі пустыя каробкі Іцкі і Шалома. На шчасце яны зачапіліся за карані дрэў. Пазбіралі мокры лён, воўну, але мёд, вашчыны і яйкі патанулі ў рацэ. Неяк дабрылі да хутара лесніка. Стралец, што вёз крамароў, нават не патрабаваў з іх заплаты. Крамары пазбіралі вылаўлены з ракі і пакінуты на хутары тавар і, маркотна звесіўшы галовы, павалакліся з ім дахаты.

Хутка Іцка адчуў, як яго праймаюць дрыжыкі, а як набліжаўся да мястэчка, у яго пачалася знясільваючая ліхаманка.

Больш за месяц прапакутаваў ён у ложку без заробку. Чуткі пра няшчасце Іцкі-крамара, якога любілі ўсе пакупнікі, разышліся па навакольных з мястэчкам сёлах. Памешчыкі, святары і дробная шляхта напрысылалі яму розных дазволеных іудзейскім законам прадуктаў; яго суродзічы ўспамаглі яго грашамі.

Іцка зноў стаў на ногі, зноў выбраўся са сваёй каробкай гандляваць. Але ўжо восеньканчалася, ужо замаразкі ўкавалі дарогу, ужо сняжок засяваў палі.

Цяжка было ісці яшчэ не цалкам выздаравеўшаму пасля хваробы беднаму крамару.

Пушчы ён страшэнна баяўся. Таму пайшоў па ранейшаму пратаптанаму і знаёмаму шляху. Але тут усюды сустракалі яго галеча і голад. Самім сялянам не было чаго есці, як жа ж яны маглі даць зарабіць кавалак хлеба беднаму крамару? Іцка ледзь здолеў пракарміцца. Усё далей і далей крочыў ён. Ужо ўсяго два дні заставалася да шабасу, а амаль някранутая каробка згінала яго плечы.

У панскіх дварах неахвотна сустракалі крамара. У адным з іх на яго напалі раз'юшаныя сабакі. Надарэмна адбіваўся ён ад іх зеўраючых пашчаў сваім кіем. Злосны дварняк здолеў падбегчы і ўкусіць яго за нагу. Жахлівы крык няшчаснага крамара разнёсся па двары. На крык выскачыў нейкі вусаты шляхціч з нагайкай; бязлітасна тройчы сцебануў ёю беднага крамара і выгнаў за браму.

Кроў сачылася з нагі Іцкі. Ён нават не крычаў, не плакаў. Ён увесь заціх, замер, быццам над ім гатова была грымнуць навальніца. Ён ступаў накульгваючы, адчуваючы востры боль у назе, але амаль не ўсведамляючы яго: настолькі балюча было яму на сэрцы. „Што ён, бедны, няшчасны крамар, зрабіў гэтаму ліхому шляхцічу, за што ён так пакрыўдзіў яго?" — мільгала ў заімглёных думках Іцкі. „Гэта новы пан, я яго раней не бачыў", — меркаваў крамар.

Раптам воддаль закружыўся снегавы пыл. На Іцка імчалася чацвёра коней запрэжаных цугам, у яскравых кракаўскіх хамутах, з фурманом у чырвонай куртцы на першым кані, знаёмым Іцку вазніцам уладальніцы двара на казлах.

„Гэта яна сама едзе!" — бліснула ў галаве Іцкі.

Ён мігам упаў на самую сярэдзіну дарогі і закрычаў як мага грамчэй: „Забілі, забілі! Ратуйце!"

Карэта затрымалася. Лакей, гэты слаўны, добры Ярош, які набываў у Іцкі ў прыданне для свае дачкі Марысі, саскочыў з запяткаў, падбег да крамара.

Іцка заплакаў наўзрыд. Ён паказаў абрыўкі сваіх нагавіц і пад імі крывавую рану, расказаў, як яго ў двары незнаёмы пан высцебаў нагаем.

Сама пані чула яго громкае, перарыванае рыданнямі, апавяданне. Яна махнула яму сваёй маленькай ручкай. Падтрыманы Ярашам Іцка наблізіўся да карэты, і здалёк ужо, нізка кланяючыся, зняў шапку.

Пані кінула яму кашалёк, затым крыкнула: „Рушай!" І зноў снежны пыл узняўся перад ашаломленым Іцкам, які зусім не чакаў такога зыходу.

Іцка абмацаў па-мастацку вязаны з шоўку кашалёк. Срэбра, усё срэбра — яно і блішчыць праз сетку вязкі. Нешта яскравае, жоўтае, бліснула ўнізе. Няўжо золата? Іцка не верыць сваім вачам, падымае кольца кашалька, высыпае з яго на руку манеты. Ён забыўся на боль ад раны, ён забыўся пра абразу. Божа Ізраіляў! Усё срэбра, і адна, дзе, тры, пяць, дзесяць залатых манет. „Дукаты! О вы, мае дарагія дзеткі! — усклікае ён. — Галандскія дукаты з чыстага золата!"

Крамар дрыжыць, быццам у ліхаманцы. І ёсць ад чаго. Гэта ж яму трапіўся амаль цэлы маёнтак: на два, на тры месяцы хопіць яго для ўсёй сям'і. Абшые ён сваю сямейку, сабе кажушок купіць, коніка найме і на ім у пушчу разам з Шаломам гандляваць паедзе...

VIII

Іцка сяк-так перавязаў сваю рану. А яна і не надта баліць, толькі холадна, быццам марозіць. Хутчэй, хутчэй дахаты! Ён яшчэ паспее на шабас, ён зараз можа там, каля мястэчка, вазака наняць, калі будзе спазняцца.

Іцка не ідзе, Іцка амаль бяжыць, хоць і накульгвае. Але добра, што той ліхі сабака ўкусіў яго за правую нагу. Кій дапамагае. Нічога, не цяжка ісці, абапіраючыся на кій.

Змяркаецца. Марозіць. А між тым адтуль, з усходу, бурае воблака насоўваецца. Сцюжа праймае Іцку, стомленасць апаноўвае, мокрая ад паспешлівай хады кашуля прыліпае да цела.

— Божа Ізраіляў! Вялікі Божа! А куды ж гэта я трапіў? — у жаху пытаецца сябе Іцка.

Цалкам незнаёмыя месцы. Якаясьці сенажаць, а на ёй стагі. Няўжо ён збіўся з дарогі? Відаць, так яно і ёсць; там, у лясочку, ён завостра павярнуў налева. „Назад, хутчэй назад!" — роспачны крык вырываецца з грудзей крамара. Ён паварочвае твар назад, і ў гэты момант парыў завірухі зацярушвае яму вочы дробненькімі сняжынкамі.

„Позна, позна! Хутчэй да стога, перачакаць за ім мяцеліцу, закапацца ў сена".

Іцка бягом кінуўся да бліжэйшага стога, выбраў месца з захіленага ад ветру боку, вырыў сабе нару ў сене. Як быццам цяплей яму стала, але мокрая кашуля мацней прыліпае да цела... Не, страшэнна зябіць ногі, рукі, грудзі, холад пранікае пад самае сэрца.

Яшчэ глыбей закопваецца Іцка ў стог.

— Так прыемна, так цёпла! — кажа ён сам сабе.

Але, але, ён адчувае нейкую дзівосную цеплыню, што адразу, быццам вар, расплываецца па ўсім ягоным целе. Дык гэта ж ён ужо прыйшоў дахаты, ён у цёплай пасцелі, Гітэль прыкрыла яго пярынай, і таму яго так хіліць на сон. Мілавідная, добрая жонка ў яго, Гітэль, цяпер ёй няма чаго бедаваць, цяпер грошай у іх надоўга хопіць... А які ж яны шабас наладзяць! Навараць мяса, рыбы, цымусу... Або ж гэта шабас? Не, гэта ён выдае замуж сваё немаўлятка, дочку Сарэльку... Якая яна прыгожанькая: вялікія чорныя вочы, чорныя кучаравінкі віюцца па ўсёй галоўцы, апускаюцца на чало. І як жа ж хутка яна вырасла... Ну, усё роўна, усё роўна. Ну і будзе цешыцца гэтаму вяселлю Іцка... І дзядзька Моўша тут, кантар... Што гэта ён трымае ў руцэ? Скрыпку. І якую прыгожую, маленькую скрыпку. Дзядзька Моўша набліжаецца да яго, Іцкі, падае скрыпку, просіць зайграць тую песеньку, што спявала залацістая мушка, якая бзынкала над ім, калі ён адпачываў у лесе, правёўшы старога бацьку Ізраіля з каробкай.

Іцка ў захапленні бярэ з рук кантара скрыпку і грае на ёй дзівосную песню.

Песню перад смерцю. На жаль, гэта не бедны крамар выігрываў на сваёй цудоўнай скрыпцы чароўныя гукі, але ліхая завіруха выла, заносячы яго вялізным сумётам снегу...

Пераклад з рускай
Міколы Гайдука

# Эх, і моладзь!

Пра паводзіны нашай моладзі ў сродках публічнага транспарту можна сказаць многа. Кранаў гэту праблему на старонках „Нівы" Янка Целушэцкі, ды і я браў голас у дыскусіі. Ці нешта змянілася на лепшае? Адказам на гэтае пытанне можа быць ніжэй пададзены прыклад.

На чыгуначнай лініі Чаромха-Беласток у бельскія сярэднія школы штодзень даязджаюць дзесяткі юнакоў і дзяўчат. Найбольш з Чаромхі і Кляшчэляў. Але як сябе паводзіць гэтая моладзь?

Аўторак, 3 лістапада. Еду раннім цягнікам у Беласток. У суседнім купэ сядзіць трое падлеткаў. У мае вушы міжвольна ўлятаюць словы суседа. Размова тычылася ўражанняў ад учарашняга дня. Разумеецца, справы не тычыліся школы, а тыпова „мужчынскіх" спраў. А які пры гэтым быў слоўнік маладых „джэнтльменаў"? Лепш і не гаварыць!

У Бельску-Падляшскім двух маіх спадарожнікаў выйшлі. Да трэцяга прысеслася маладая дзяўчына (як я прыкмеціў пазней, яны былі знаёмымі). У час размовы ў кожным другім сказе юнак паўтараў слова „к...". Дзяўчына не рэагавала на гэта, а з твару яе не знікала ўсмешка. Відаць задавальненне давала ёй кампанія і размова з сябруком.

Што ж можна падумаць аб дзяўчыне, цалкам нябрыдкай і культурнай на першы погляд.

І яшчэ адна адмоўная заўвага пра дамы з бельскіх школ. Штодзённай звычкай іх стала займанне туалета (па некалькі асоб адначасова) для курэння папяросаў. Займае гэта ім неадной чы некалькі хвілін. Калі нехта з падарожных паспрабуе звярнуць увагу прыгажуням, абкінуць яго пагардлівым позіркам, а часам лішнім эпітэтам.

Вось якая зараз наша моладзь!

Уладзімір Сідарук

# Як „траслі" „катоў" у Гайнаўскім белліцэі

У кастрычніку г.г. у II Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы адбыліся атрасіны вучняў першых класаў. Кожны клас меў сваё адзенне ў аднолькавых колерах, падрыхтаваныя шпалеры і гімн класа. Забава пачалася ў $15^{30}$. Ніхто не мог выкруціцца ад „кашэчага хрэсту", таму што перад уваходам правяралі прысутнасць. Каб увайсці ў залу, кожны першакласнік павінен быў пералезці вузкі і нізкі тунель, на канцы якога стаяла міска з кісялём. Трэба было ўткнуць свой твар у тую міску, а пасля пасыпалі нам яго мукою. Страціўшы арыентацыю, першакласнікі былі вымушаны пакланіцца кухару, які ва ўзнагароду раздаваў плескачы патэльняй. Пасля ўсе „хрышчаныя", з закарэлымі ўжо „масачкамі" на тварах, сталі ў падзеленых на класы групах.

Першы атракцыён — спяванне свайго гімна ўсім класам па чарзе. Пасля таго стомленыя і галодныя „каты" маглі нешта з'есці і чымсьці папіць. Тых, хто супраціўляўся, „трасучыя" запіхалі ў цесную „скрынку для закаханых".

Прадстаўнікі класных троек былі запрошаны ў рэстаран „McKot's". У гэты час кухары-першакласнікі кроілі цыбулю і бульбу тупым нажом.

Гасцей рэстарана забаўлялі па-рознаму. Спачатку найболш таленавітыя першакласнікі, з тэкстамі ў руках, праспявалі вядомыя песні. Затым выступілі найлепшыя танцоры. Дзяўчаты танцавалі басанож, а хлопцы — у фільцавых чобатах.

Чарговым заданнем былі спартыўныя спаборніцтвы: кідалі ў парах недаваранымі яйкамі, перадавалі з вуснаў у вусны моркву, а таксама адбываліся „гонкі тратуаркаў". Прыбіралі пасля гэтых змаганняў дзве прыбіральшчыцы мужчынскага полу з I „а" класа; праца дала ім магчымасць папрактыкавацца ў гэтай прафесіі.

Да таго часу кухары закончылі падрыхтоўку стравы, якою пачаставалі гасцей рэстарана „McKot's". Пасля вячэры класныя тройкі вярнуліся ў свае класы і разам з калегамі далі прысягу, якая пачыналася ад слоў: „Я, Кот Кацінскі..." Пасля гэтага ўсе „каты" апошні раз дружна замяўкалі і такім чынам закончыліся атрасіны. Другую частку вечара складала дыскатэка I і II класаў, на якой мы вельмі добра пагулялі.

Былыя „котачкі"
Марта і Юліта з I „б" класа

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*IV „ц” і настаўніца беларускай мовы Валянціна Бабулевіч.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Сустрэча ў IV „ц”

Сімпатычна пачалася сустрэча з вучнямі IV „ц” класа, што ў бельскай „тройцы”. Паўліна Іванюк святкавала дзень нараджэння. Дзяўчынка, як наказвае школьная традыцыя, пачаставала цукеркамі.

— Паўліна раней вучылася ў Хрaбалах, — паясніла настаўніца беларускай мовы Валянціна Бабулевіч. — У „тройку” ходзіць з гэтага года.

Самой Паўліне падабаецца новы клас. Тут многа вясёлых хлапчукоў і дзяўчат. У IV „ц” найадважнейшыя хлопцы. Асабліва Тамаш Васілюк, які безупынна хацеў ставіць „Зорцы” процьму пытанняў.

Менавіта, мае новыя сябры ставілі мне цікавыя пытанні. Напрыклад: чаму „Зорка” завецца „Зоркай”, адкуль бярэм тэмы на нашу старонку, на якой мове гаворыць яе рэдактар у прыватным жыцці або як стаць карэспандэнтам „Зоркі”.

Вельмі спадабалася мне пытанне дзяўчынкі, якая пацікавілася, ці я чытаю польскія кніжкі.

Пасля перапынку мы памяняліся ролямі. Дзеці расказалі пра свой клас. Класным старастам у IV „ц” з'яўляецца Кася Краўчук, а яе намеснікам Марта Карчэўская. Разам з названымі дзяўчынкамі ў класе 26 вучняў. Выхавацелькай Галена Хіліманюк. Сярод найбольш любімых прадметаў дзеці назвалі: матэматыку, англійскую і беларускую мовы ды фізкультуру. Дзеці назвалі таксама дэкламатараў, што ўдзельнічалі ў беларускім конкурсе „Роднае слова”. Былі гэта: Павел Сушч, Тамаш Васілюк, Адрыян Пагажэльскі, Кася Краўчук (I месца ў Бельску і II у Нараўцы), Кася Капацкая, Марта Карчэўская, Аня Супранюк, Паўліна Іванюк і Адам Іванюк.

У канцы дзеці пералічылі выдатнікаў. Сярод найлепшых вучняў назвалі яны Юстыну Тарасюк, Касю Федарук, Томка Васілюка, Адрыяна Пагажэльскага і Касю Краўчук. Сустрэча закончылася конкурсам ведаў пра „Зорку”.

Каляровую кашульку, размаляваную дзецьмі, выйграў Гжэсь Юрчук. Былі таксама памятныя здымкі і жаданні чарговых сустрэч. Да пабачэння, сябры!

**ЗОРКА**

# *Чытачам „Зоркі”!*

Я вельмі хачу падзяліцца з Вамі сваімі думкамі і разважаннямі.

Канец кастрычніка і пачатак лістапада гэта ў мяне час успамінаў і рэфлексій. У гэты перыяд я асабліва часта наведваю магілу майго дзядулі Міхала і прабабкі Тані, на жаль, няма іх ужо сярод нас. Успамінаю мілыя хвіліны, якія я правяла разам з імі. Дзядуля чытаў мне „Новую зямлю” Якуба Коласа, свой любімы твор. Ніколі не забуду беларускіх, цікавых казак маёй бабулі.

Бацька мой працуе ў фірме, якая займаецца транспартам сучасных аўтамабіляў. Ён ездзіць па цэлым свеце. Заўсёды гаворыць мне, што калі едзе ў Беларусь, сэрца яго б'е мацней, весялей. Тата абяцаў, што ў гэтым годзе завязе мяне ў Мінск. Я таксама вельмі ганаруся сваім беларускім паходжаннем.

Маю толькі чатырнаццаць гадоў і напэўна не мне крытыкаваць іншых. Аднак не магу зразумець з'явы, якая паўсюдна выступае ў маім родным горадзе. Бывае так, што бацькі вельмі цешацца, калі іх дзіця размаўляе па-англійску, а зусім іх не абыходзіць, ці яно ведае мову сваіх продкаў.

Аднак насуперак усяму я веру, што ў будучыні ўсе беларускія дзеці будуць шанаваць сваю мову.

**Анна АЎСЕНЮК,**
**клас VIII „е” ПШ н-р 3**
**у Бельску-Падляшскім**



*Паводле верша „Наталька-скакалка” В. Шведа.* Мал. Евы СЕГЕНЬ з Беластока

# Сустрэча са слаўным беларускім паэтам

У адзін з вераснёўскіх дзён у нашу школу завітаў выдатны беларускі паэт Віктар Швед. У зале навучання беларускай мовы сабраліся вучні V і VI класаў. Мы сардэчна прывіталі чаканага госця. Паэт вельмі цікава расказаў нам аб сваім дзяцінстве, маладосці, навуцы і творчасці. Чытаў нам свае вершы са зборніка „Вершы Натальцы”. Гэтыя вершы былі пра яго дачушку Натальку. Яны нам вельмі падабаліся. Многія з нас купілі гэтую кніжку.

Гэтая сустрэча ўсім нам вельмі спадабалася. Паэт таксама быў задаволены сустрэчай з намі. Хочацца, каб такіх сустрэч было як найбольш.

**Бася ЖЭРУНЬ,**
**клас V „ц” „бельская тройка”**

## Вершы Віктара Шведа

### *Хачу коніка!*

— Ціха будзь, Лёня, —
Хворая мама сёння.
Хутка прынясе бусел
Дзіцятка мамусі.

Каго хацеў бы, сынку,
Хлопчыка ці дзяўчынку?
Адказ быў Лёніка:
— Я, татка, хачу коніка.

### *Ці ведае сабака пагаворку?*

— Не бойся, Якаў,
Майго сабакі.
Ёсць пагаворка такая:
Хто брэша — не кусае.

— Адкажы мне, Ваня,
На маё пытанне:
Сабака на падворку
Ведае пагаворку?

Прыгоды паноў Кубліцкага ды Заблоцкага

# У заробкі(2)

А як добра цяпер будзе пану Кіндзюшку плаваць у госці да ангельскага караля! Будзе яму ў моры і сырадой, і смятанка. От жа хараша!

Пан Кіндзюшка ў адказ на тое толькі кажа „гм” і бярэцца за сваю трубу. А панам паказвае, каб ішлі пасвіць гусі.

Гусь — птушка памяркоўная, трымаецца ў чарадзе. Але ж і за ёю патрэбен догляд. А паны адно сабе смокчуць люлькі ды спрачаюцца паміж сабою. Нарэшце гусям надакучваюць такія вартаўнікі, яны разам выпростваюць крылы ды ўздымаюцца ў паветра. Вышэй, вышэй і вось ужо гусі хаваюцца паміж хмарамі, а паны, адвесіўшы губы, збянтэжана праводзяць іх вачыма.

Пан Кіндзюшка аглядае праз трубу Месяц, і раптам бачыць, што там, паміж каменняў ды кратэраў ходзяць ягоныя гусі. Тады пан Кіндзюшка не жартам злуецца і торкае панам пад нос тую трубу:

— Гэта хто?

— Няўжо гусі? — дзівіцца пан Кубліцкі. — Чаго іх на Месяц панесла, бедалажкаў? Там жа гола, пуста, ані травінкі. Агылі, агылі, злазьце з Месяца. Пагулялі, дый годзе.

Але тут у трубе, якраз перад вачыма пана Кубліцкага, з'яўляецца нешта накшталт вялізнае дулі.

— Што гэта? — палохаецца пан Кубліцкі. — Фу, як непрыстойна. Хай пан Кіндзюшка прабачыць, але зусім нявыхаванае ягонае птаства.

Натапырыўся пан Кіндзюшка, але што адкажаш? Выпраўляе паноў глядзець пчолы.

Вось гэта самая што панская праца! Пчала — паслухмяная жамяра, трымаецца сваёй дамоўкі. Каля яе завіхаецца Саўка, панскі пчаляр, то вадзічкі нальe ў спадачак, то рамкі з сотамі паправіць. А паны адно ад-лежваюць сабе бакі. Пахрапуць, прачнуцца — ды давай мёд грэбці лыжкамі. А калі пчала джгне ў спіну ці ніжэй — не бяды. Бо ў паноў раматус, а пчаліныя джалы, кажуць, добра ад гэтае хваробы лечаць.

Ядуць паны мёд, гуляюць у карты, і ўжо ім непамысна робіцца ад аднастайнага жыцця. Пан Кубліцкі пачынае вымышляць розную лухту:

— Што б такое прыдумаць, каб пчолы паболей мёду цягалі? Можа, павесіць кожнай на шыю цэбар? Хай у цэбры мёд збіраюць?

— А хто тыя цэбры мыць будзе? — адразу падкідае пытанне пан Заблоцкі.

— Але, — адразу згаджаецца пан Кубліцкі. — Хай сабе па-ранейшаму збіраюць мёд.

Усё лета раскашуюць паны на пасецы, як у нейкім санаторыі. А і то ўжо налгалі пану Кіндзюшку пра сваю верную службу, дык усяго й не перакажаш. Склалі цэлую гісторыю пра тое, як мядзведзь напаў на пчалу і пачаў яе грызці, а яны прыбеглі ды адбаранілі.

Настае восень. Пчолы зацыроўваюць дзверы, вокны ў сваім жытле — рыхтуюцца да зімы. Выганяюць з вулляў трутняў, якія нічога не робяць, адно ядуць. А заадно з імі праганяюць з пасекі і паноў Кубліцкага ды Заблоцкага. Не хапала ім яшчэ гэтых абібокаў цэлую зіму карміць.

Застаўся ад сытага жыцця адзін салодкі ўспамін. „Эх, якая праца была, — яшчэ й дагэтуль згадвае пан Заблоцкі. — Адно слова — шляхетная”. А пан Кубліцкі, падняўшы палец, дадае: „Галоўнае што? Галоўнае, каб чалавек заўжды быў на сваім мейсцы. Там, дзе яму болей карысці”.

**Пятро Васючэнка**



*Сябры з Белавежы: „Klub Tropiciela” з Евай Мароз-Кэчынскай.*

Фота Ганны Кандрацюк

# Наведалі музей

21 кастрычніка, на ўроку беларускай мовы, мы, вучні класа I „б” з II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы разам з нашай настаўніцай Галантай Грыгарук пайшлі ў Беларускі музей у Гайнаўцы.

Найперш мы спаткаліся з бібліятэкаркай Наталляй Герасімюк. Яна сказала нам пару слоў пра Беларускі музей, а таксама прачытала некалькі вершаў і казак вядомых беларускіх паэтаў, між іншым Ніла Гілевіча і Наталлі Арсенневай.

Потым мы пайшлі ў бібліятэку. Там шмат беларускіх кніжак, таксама і ў перакладзе на польскую мову. Кожны чытач можа сабе знайсці кніжкі на тэмы, якія яго цікавяць. Апрача кніжак, у бібліятэцы ёсць яшчэ беларускія газеты, часопісы, слоўнікі і энцыклапедыі. Хто хацеў, мог запісацца ў бібліятэку.

Быць у музеі і не паглядзець выстаўкі, гэтага мы б сабе не даравалі. Наша настаўніца рашыла, што мы таксама паглядзім на экспанаты, якія ёсць у музеі. Выстаўка займае тры залы. У першай мы аглядалі колішнія абрадныя прадметы. У другой і трэцяй залах знаходзяцца прадметы штодзённага ўжытку. Калі ўсе вучні агледзелі экспанаты, мы вярнуліся ў школу.

Думаю, што гэтая экскурсія, хаця кароткая, была вельмі цікавай. Мне найбольш падабалася беларуская бібліятэка.

**Марта Сельвясюк, клас I „б”**

# Павел Валошын

Павел Валошын быў адным з найбольш вядомых беларускіх дзеячаў-ураджэнцаў Беласточчыны. Нарадзіўся 28 чэрвеня 1891 года ў Гаркавічах Сакольскага павета. Пачатковую школу закончыў у Крынках, дзе пасля працаваў тэлефаністам на мясцовай пошце. У 22-гадовым узросце быў прызваны ў расейскую армію. Неўзабаве пачалася I сусветная вайна і Валошын трапіў на фронт, а пасля ў нямецкі палон. У 1918 г. быў вызвалены з няволі і ў пошуках сям'і накіраваўся ў Расію. У 1922 г. разам з сям'ёй вярнуўся ў Гаркавічы. У Польшчы вялася тады выбарчая кампанія ў Сейм. Валошын стаў адным з кандыдатаў ад беларускага асяроддзя. Быў выбраны паслом і стаў членам Беларускага пасольскага клуба, які ўзначальваў Браніслаў Тарашкевіч.

У 1925 г. Павел Валошын выступіў адным з ініцыятараў заснавання Беларускай сялянска-работніцкай грамады, быў яе галоўным арганізатарам у Беластоцкім ваяводстве. У парламенце вылучаўся вялікай актыўнасцю і таму за кожным яго крокам сачыла польская паліцыя. У Сейме Валошын часта гаварыў пра здзекі адміністрацыі, паліцыі і судоў над беларускім насельніцтвам, эканамічную дыскрымінацыю сялян, абмежаванні для беларускага школьніцтва і культуры. Грамада мела быць формай змагання беларусаў за свае грамадзянскія і чалавечыя правы. У палове студзеня 1927 г., калі была ліквідавана Грамада, Валошына арыштавалі як аднаго з першых дзеячаў гэтай партыі. Суд віленскай акругі прысудзіў яму 12 гадоў турмы.

У 1932 г. у рамках абмену палітычнымі вязнямі Валошын быў вывезены ў Менск. Працаваў там у савецкай адміністрацыі. Свабодай доўга не карыстаўся. Саветы ў 1933 г. пачалі ў сябе ліквідацыю беларускіх нацыянальных дзеячаў. Павел Валошын быў арыштаваны і абвінавачаны ў шпіянажы на карысць Польшчы. У 1937 г. быў замардаваны бальшавікамі.

# Польска-беларуская крыжаванка № 46

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным канторольным талонам) на працягу 3 тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Figa | Horyzont | ▼ | Dusza / Przesmyk | Ona | 📖 |
| Szacunek ▶ | ▼ | | ▼ | ▼ | Harfista |
| ▶ | | | | | ▼ |
| Łazarz ▶ | | | | | |
| 📖 | | 📖 | Rzeka | Piękno | |
| Ogórki ▶ | | | ▼ | ▼ | |
| Łoskot | | Ars ▶ | | | |
| ▶ | | | | | |
| 📖 | | As ▶ | | | 📖 |
| Klasa | | ▶ | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 42:** Жаба, жывот, туга, мак. Жыта, павук, Бог, кантор.

Узнагароды — **набор каляровых аўтаручак** — выйгралі: **Міхал Галёнка** з Махнатага, **Марта Пацэвіч, Ян Леанюк, Магдалена Вашкуць** і **Наталля Юзючук** з Бельска-Падляшскага.

Віншуем!



Талон „Зоркі” № 46
15.11.1998

# Тамара заваёўвае Амерыку



*Тамара Тарасевіч і Біл Грэйнер.*

Тамара Тарасевіч, таленавітая мастачка з Белавежы, якая тры гады вяла ў мястэчку сваю галерэю, амаль два гады ўжо знаходзіцца (з мужам Сяргеем) у ЗША. Раней выехалі туды за навукай іхнія дзеці, Анна і Радаслаў. Нягледзячы на надоўгі час прабывання на чужыне, Тамара намалявала каля 200 палоцен. Ёй хацелася таксама пераканацца, як яе творчасць прымуць амерыканцы. Наладжана з гэтай мэтай выстаўка ў Галерэі Брандэнбург, што змяшчаецца ў Мастацкім цэнтры Ларсена пры Універсітэце Олівет-Назарэн у горадзе Канкакі (штат Ілінойс) перавысіла найбольш смелыя спадзяванні мастачкі. Паказаных 30 палоцен цалкам заваявалі амерыканскіх аматараў мастацтва. Гледачы прынялі працы энтузіястычна, а сама выстаўка карысталася вялікім зацікаўленнем. Доказам гэтаму з'яўляюцца натоўпы наведвальнікаў. Настаўнікі мясцовых сярэдніх школ арганізоўваюць у сваю чаргу экскурсіі школьнікаў на выстаўку. Арганізатары ўвялі таксама дадатковую ахову экспанаваных прац (камеры, дзяжурствы).

Спонсар выстаўкі — Факультэт мастацтва Універсітэта Олівет-Назарэн запрапанаваў Тамары весці лекцыі, а таксама прадэманстраваць студэнтам тайны свайго майстэрства. Трэцяя частка паказаных на выстаўцы прац будзе экспанавацца на асобнай выстаўцы ва універсітэцкіх залах і майстэрнях студэнтаў, каб маглі яны пазнаёміцца з новымі магчымасцямі ў мастацтве. Апекуны выстаўкі — прафесары Біл Грэйнер і Чэліз Кінцынгер — не скрываюць сваёй радасці, што ўдалося ім паказаць арыгінальнага творца, які ўзводзіць у мастацтва жыватворныя плыні. Наведвальнікі выстаўкі звяртаюць увагу, перш за ўсё, на нязвыклыя колеры палотнаў, якія „кранаюць глыбіню душы", якія „астаюцца ў памяці". У памятнай кніжцы наведвальнікі пакідаюць самыя станоўчыя заўвагі. Сярод іх знаходзяцца і такія, якія ставяць Тамару нароўні з Кандзінскім ці нават самым Пікасо. Адзін з наведвальнікаў падзякаваў мастачцы ўжо за тое, што мог памагаць завешваць яе працы.

Поспех выстаўкі, адчыненай 16 кастрычніка г.г. прымусіў арганізатараў прадоўжыць яе на лістапад. Тамара і Сяргей Тарасевічы, заахвочаныя першай удачай, думаюць аб чарговых выстаўках у найбольшых гарадах ЗША. Зараз шукаюць дзеля гэтай мэты спонсараў, бо каб наладзіць якую-небудзь выстаўку ў Амерыцы, трэба вялікіх грошай.

Удачы, Вам, зямляркі!

**Пётр Байко**

*Фота Сяргея Тарасевіча*

# Знявага за мяккасардэчнасць

Нядаўна плаціў я грошы пенсіянерам. У Грабаўцы накіраваўся да аднаго селяніна з гэтаю ж мэтай. Дом яго быў замкнёны, а на панадворку — жывога духа! Паводле правіл у такой сітуацыі мне трэба было пакінуць у яго дзвярах паведамленне, каб адрасат асабіста ставіўся на пошту за сваімі грашыма. Я пашкадаваў чалавека, каб ён не траціў часу на валакіту ў паштамт, і пайшоў да непадалёк пражываючай яго роднай сястры, парадачнай кабеты, каб у яе пакінуць яго пенсію. Яна згадзілася прыняць тыя грошы, падпісала чэк сваім прозвішчам, а я выплаціў ёй усё да граша. Яна яшчэ запэўніла мяне, што грошы брату аддасць, бо жывуць яны згодна.

Калі я ўжо ўстаў, каб выйсці з хаты, уляцеў туды і той пенсіянер, якога я нядаўна беспаспяхова шукаў на яго панадворку.

— О! Вельмі добра, — кажу я, — вось тут твая пенсія, бяры і пералічы...

А ён узяўся мяне лаяць найгоршымі словамі за маю дабрату. Я не верыў сваім вушам, што ён на такое здольны. А ён накінуўся на мяне за тое, што я не зранку яму тыя грошы прынёс, што не ў яго хаце плаціў, што пазней прынёс, чым у банку выплачваюць і г.д. Аж тросся ён; грошы са стала схапіў у камяк і сунуў у кішэню.

— Пералічы хаця, — сказаў я, — а то пасля па вёсцы будзеш гаварыць, што цябе я ашукаў.

І сястра стала яго ўнімаць, бо ён так расхадзіўся, што калі б дужэйшы быў, дык пэўна з кулакамі на мяне кінуўся б. Мяркую, што гэты дзядзька не мог дараваць мне таго, што яго сястра даведалася пра велічыню яго пенсіі, хаця тая пенсія невялікая. Я з ім не сварыўся, толькі наканец сказаў:

— Калі чалавек сам дурны, дык яму здаецца, што ўсе дурныя.

Гэта быў першы на працягу трыццаці трох гадоў маёй паштовай службы выпадак, калі за добра адплацілі мне злом.

**Мікалай Панфілюк**

Наша кнігарня

# Пра беларусаў Балтыі

„Беларусы Балтыі"* — зборнік матэрыялаў пра беларусаў балтыйскага рэгіёна. Ідэя яго выдання ўзнікла на II З'ездзе беларусаў Балтыі, які адбыўся ў Вільні ў ліпені 1998 года. У першай частцы кнігі распавядаецца пра мінулае і сучаснае літоўскіх беларусаў, другая частка складаецца з выступленняў дэлегатаў II З'езда беларусаў Балтыі, а трэцяя прысвечана дзейнасці беларускіх суполак Літвы.

Кніга пачынаецца грунтоўным хоць кароткім атрыкулам Сяргея Вітушкі *Адраджэнне беларускага жыцця ў Літве*. „Сённяшнія беларусы Літвы ўяўляюць сабой дзве вялікія групоўкі (...). Першую групоўку можна ўмоўна назваць «беларусамі паводле пашпарту». Гэта людзі, якія за савецкім часам, у 50-80-я гады, пераехалі з Беларусі ў Літву (асабліва з памежных з Савецкай Літвой раёнаў), каб працаваць і вучыцца. Кожны такі перасяленец у сваім пашпарце меў адзнаку «беларус» і гэтакім застаўся падчас апошняга перапісу насельніцтва. Сёння такіх грамадзян налічваецца каля 60-ці тысяч. У асноўным яны пражываюць у паўднёва-ўсходнім рэгіёне Літвы — у гарадах Друскенніку, Салечніку, Трокі, Свянцяны, Вісагінас. Найбольшая колькасць (да 30 тысяч) пражывае ў Вільні. Прадстаўнікі названай групоўкі ў большыні сваёй абыякава ставяцца да беларускай мовы, да праблемаў беларускага адраджэння (...). Другая групоўка (...) гэта карэнныя жыхары Паўднёва-Усходняй Літвы, гэтак званага Віленскага Краю. Паводле сваіх этнаграфічных рысаў яны амаль нічым не розняцца са сваімі суседзямі, якія пражываюць у прылеглых да Літвы раёнах Беларусі. Між сабою, у побыце, многія з іх паслугоўваюцца гэтак званай «простай мовай», якую пераважная большасць даследчыкаў лічыць звычайным паўночназаходнім дыялектам беларускай мовы. Носьбіты гэтай «простай мовы» дагэтуль захоўваюць бясцэнныя, архаічныя ўзоры беларускага фальклору, якіх не сустрэнеш і ў самой Беларусі. Паводле сваёй канфесійнай прыналежнасці гэтыя спракаветныя насельнікі Літвы залічаюць сябе: каталікі — да палякаў, праваслаўныя — да рускіх. Такая неспрыяльная для развіцця беларускае нацыі сітуацыя склалася яшчэ ў XIX ст. і была характэрная для абшараў усяе этнічнае Беларусі. Беларусы тады сваю гаворку называлі «простай», сябе «тутэйшымі», а веру сваю — «польскай» або «рускай» (...)." Валеры Чэкман, прафесар Віленскага універсітэта, кіраўнік кафедры славянскай філалогіі вядзе разважанні над *Этнічнай і моўнай мапай Паўднёва-Усходняй Літвы*. Гэты артыкул — вынік моваznаўчай экспедыцыі 1989 года. Яўхім Карскі апублікаваў быў у 1903 г. „Этнаграфічную мапу беларускага племені". Паводле яго даследаванняў, значная частка Смаленскага абшару і ўся Паўднёва-Усходняя Літва, дзе цяпер пражываюць палякі, трактуецца як чыста беларускамоўная тэрыторыя. „Аднак падчас апошняга перапісу, — сцвярджае В. Чэкман, — 58% Салечніцкага раёну прызнала польскую мову за сваю родную. У іншых «польскіх» раёнах беларусамі акрэслілі сябе толькі выходцы і перасяленцы з паваеннай Беларусі. На гэтай падставе прадстаўнікі польскае інтэлігенцыі сцвярджаюць найчасцей, што ўсе літоўскія палякі размаўляюць выключна па-польску — таксама і дома. Гэтую ж мову, якую мясцовае насельніцтва называе «простай», трактуюць як «сапсаваны», «мешаны» польскі дыялект. У іншых публікацыях праблема мовы літоўскіх палякаў набывае нават палітычны характар, сама ж пастаноўка пытання, на якіх усё ж мовах яны размаўляюць, — падаецца як сумненне ў іх польскасці! (...) Ва ўсім Салечніцкім раёне, паўднёвай, „падвіленскай", частцы Віленскага раёну і ўсходняй частцы Троцкага раёну мовай мясцовага насельніцтва з'яўляецца «простая мова». «Мы ёсць палякі, але мы размаўляем па-просту!» — так звыкла паўтараюць гэтыя людзі"...

Справы, часам вельмі падобныя да нашых, закрануць беластоцкага чытача. Запрашаем набыць гэтую цікавую і змястоўную кнігу ў нашай рэдакцыі.

**Міра Лукша**

**Беларусы Балтыі*, Выдавецтва Таварыства Беларускай Культуры „Рунь", Вільня 1998, сс. 122. Цана 6 зл.

# Свята памерлых у Беластоку

[1 ☞ працяг]

— А там, — махае рукой пані Вера. — Усё ж прыемней, як праваслаўнымі літарамі помнік падпісаны.

Пра Юрку Генюша пані Вера раней ніколі не чула. Таксама не чула пра Міколу Чарнецкага, доктара філасофіі, палітычнага і грамадскага дзеяча. І тут, на магілцы аздобленай бел-чырвона-белай стужкай, свежымі хрызантэмамі і намагільнымі лямпкамі пані Вера ставіць сваю лампадку.

— Каб людзі больш пра сваіх героях гаварылі, то тут не сціплы жалезны крыж стаяў бы, а мармуровы, элегантны, як вы думаеце?

Памаліўшыся над магілай Міколы Чарнецкага, ідзем на магілу Віктара Рудчыка, шматгадовага журналіста „Нівы".

— І тут па-беларуску помнік падпісаны, — радуецца пані Вера.

Віктар Рудчык для яе чалавек вядомы.

— Калісьці пра вайну добра пісаў. Яго „Партызанскімі сцежкамі" цэлая вёска зачытвалася, — успамінае са слязамі ў вачах мая субяседніца.

Таксама на магіле ніўскага журналіста запальвае яна лампадку.

— Я то нават і не думала, што толькі выдатных беларусаў тут спачывае, — ківае галавой пані Вера.

— Цяпер заўсёды да іх буду заходзіць, — кажа на развітанне.

* * *

Напэўна падумаеце, як сустрэла я паню Веру? Звычайна. Гэтая жанчына кідалася ў вочы, бо так як і я без рашучасці бадзялася сярод магіл. Нават у народзе кажуць: „Свой свайго заўсёды знойдзе".

**Ганна Кандрацюк**

# Ікона Божай Маці ў Рыбалах



У Рыбалаўскай царкве знаходзіцца асабліва шанаваная Ікона Божай Маці з I паловы XVII стагоддзя. Цяжка цяпер сказаць калі і хто яе ахвяраваў храму. Паходжанне іконы могуць высветліць захаваныя дакументы, паколькі некаторыя мяркуюць, што цяперашняя ікона раней належала царкве ў Кажанах.

Самая ранняя вестка пра ікону паходзіць з візітацыі царквы ў Рыбалах у 1773 годзе. Чытаем у ёй: „(...) алтар вялікі, замест крылаў царскімі варотамі прыстасаваны з абразом Прасвятой Панны. Карон срэбных 2, плітак срэбных 7, там плітка-чацвяртушка, сэрцайка срэбнае 1, пацеркаў шнуркоў 5". Па апісанні можна меркаваць, што былі гэта ахвяраванні, прынесеныя ў дар Божай Маці донарамі або асобамі, якія атрымалі ласку ад заступніцтва Багамаці. З чарговай візітацыі ад 1804 года можна даведацца як выглядала ікона і выява на ёй: „У глыбі алтара абраз Прасвятой Маці Госпада Ісуса Апякункі на драўлянай дошцы маляваны, на якім суkенка з матэрыі белай, дзве каронаў срэбных пазалочаных, адзін дарунак срэбны і фіранак дзве белых газавых і кармазынава-лілейная адна. Абраз гэты засоўваецца іншым абразом з выявай на ім Кузьмы і Дзям'яна". Свята Кузьмы і Дзям'яна ўрачыста ўшаноўваецца ў Рыбалах 14 лістапада (1 па старому стылю), а нябеснымі заступнікамі мясцовай царквы з'яўляюцца менавіта згаданыя абодва святыя лекары і цудатворцы.

У 1835 годзе прыход у Кажанах страціў самастойнасць і быў падзелены паміж цэрквамі ў Суражы і Рыбалах. У 1873 годзе пачалася разборка храма. Матэрыял з царквы ў Кажанах, а таксама са старога прыхадского храма ў Рыбалах быў выкарыстаны для пабудовы новай могільнікавай царквы св. Юрыя ў Рыбалах. У Рыбалаўскую царкву з Кажанаў трапілі між іншым іконы Божай Маці і св. Юрыя і званы. Пасля аднаўлення царквы ў Кажанах у 1883 годзе кажанскія прыхаджане прасілі рыбалаўскага настаяцеля вярнуць ім іконы і званы. Дзесяць гадоў цягнулася карэспандэнцыя з епархіяльнымі ўладамі, якія ў канцы вырашылі вярнуць ікону Божай Маці і званы. Маляваная на дошцы ікона св. Юрыя знаходзілася ў могільнікавай царкве ў Рыбалах да 1965 года і была ўкрадзена невядомымі злачынцамі.

Епархіяльны прэсавы орган ад 1897 года змясціў нататку, што ў 1896 г. жыхар вёскі Паўлы Фёдар Апалінскі ахвяраваў 35 рублёў на абнаўленне рызы і рамы іконы Божай Маці. На адвароце іконы захаваўся надпіс: „Эта риза к Иконе Кожанской Б[ожей] М[аці] почитаемой чудотворною пожертвовано Прихожанами Рыболовской Космо-Демьянской Церкви, при старании настоятеля той-же Церкви Григория Кудрицкого и возложена на образ 1864 года 12 марта к Вербному Воскресению. Эту ризу вырезал Роговский, золотил Войтицкий, за вырезку заплачено 15 руб. серебром, за залочение 24 руб. серебром. Всего 39 рублей серебром. Сия риза обновлена 20 января 1897 года средствами Павловского старшины Феодора Опалинского на 35 руб."

Настаяцелем прыхода ў Рыбалах у 1859-1869 гадах быў а. Рыгор Кудрыцкі і пры ім, паводле апісання, была выразана драўляная рыза для іконы Божай Маці. Загадкай застаецца сама назва іконы — *Кажанская*, якой у гэты час не было ў Рыбалаўскай царкве. Мабыць, жывая яшчэ была сярод жыхароў прыхода памяць аб іконе ў Кажанах. Выявы абедзвюх ікон былі падобныя і з'яўляюцца яны копіямі іконы Смаленскай Божай Маці.

Рыбалаўская ікона ўвесь час знаходзілася ў царкве і асабліва шанавалася вернікамі. У інвентары царквы з 1939 года чытаем: „Абраз БМ (местночтимой) у драўлянай пазалочанай марызе ў вялікім ківоце". Згаданая ікона па даручэнні Ваяводскага рэстаўратара помнікаў у Беластоку аднаўлялася ў 1979 годзе ў Майстэрні рэстаўрацыі помнікаў у Варшаве і была прылічана да выяў тыпу *Адзігітрыя* — Шляхаводніца. Тады было састаўлена такое вось яе апісанне: „Багамаці трымае на левай руцэ сідзячае Дзіцятка. Прадстаўлена яна ў паяснай фігуры на залочаным фоне з адціснутым у бейцы манерным раслінным арнаментам і аўрэоламі вакол галоў БМ і Дзіцятка. Божая Маці прадстаўлена франтальна з нязначна перахіленай улева галавой, правай далонню ўказвае на трыманае на левай руцэ Дзіцятка. Адзетая ў чырвоны плашч (рызу ўсходняга тыпу), які накрывае галаву, плячо і грудзі, падшыты белай падкладкай, закончаны пры берагах пасам далікатнай абляможкі з залатых перакрыжаваных ліній і далікатных фрэнзляў. Дзіцятка сядзіць проста, павернутае 3/4 управа, правай рукой благаславіць, а пад левай трымае кнігу. Адзетае ў белую сукню, з-пад якой відаць босыя ступні, закончаную пад шыяй шырокай залочанай аблямоўкай. Разбеленыя, халодныя колеры твараў ажыўляюць вялікія «міндалевыя вочы»". Аўтар дакументацыі мастацкі стыль акрэслівае наступным чынам: „Кампазіцыя ў агульнай манеры ссылаецца на вядомыя ўсходнія схемы". Прытым трэба звярнуць увагу на апісанне Госпада Ісуса Хрыста. У 1804 годзе запісана было: „сукенка з матэрыі белай", а ў 1979 — „адзетае ў белую сукню". Гэта з'яўляецца доказам, што гэта тая ж самая ікона, якая пастаянна стагоддзямі знаходзіцца ў царкве ў Рыбалах. Далей у вопісе чытаем: „Ікона маляваная на дошцы з ліставога дрэва на крэйдава-масляным бейцы, састаўляюць яе тры дошкі з дзвюма папярочкамі ў пазах". Размеры Рыбалаўскай іконы Божай Маці — 94 см вышыні і 60 см шырыні, а Кажанскай — адпаведна 114 см і 72 см. Гэта пацвярджае, што былі гэта дзве розныя іконы. Выява іконы ў Рыбалах падобная на Смаленскую Адзігітрыю, якой маты быў у нас распаўсюджаны дзякуючы копіі іконы ў Супраслі.

Ікону Смаленскай Божай Маці прывезла на Русь візантыйская князёўна Анна, якая ў 1046 годзе выйшла замуж за Усевалада Чарнігаўскага. Вялікі князь кіеўскі Уладзімір Манамах, як гаворыць традыцыя, змясціў гэтую ікону ў смаленскай кафедры ў 1101 годзе. На ёй „Божая Маці ў паяснай фігуры на левай руцэ трымае Ісуса, правай далонню ўказвае на Збавіцеля. Зрок Смаленскай БМ накіраваны проста на гледача. Ісус правай рукой благаслаўляе, а ў левай трымае кнігу". Смаленскай іконе Божай Маці прыпісваецца такое ж самае гістарычнае значэнне як візантыйскай іконе Влахернскай Божай Маці. І невыпадкова ікона апынулася ў Рыбалах, бо згодна візітацыям з найдаўнейшых часоў свята Пакладання слаўнай рызы Прасвятой Багародзіцы ў Влахерне ўшаноўваецца тут 15 ліпеня (2 па ст. стылю) як прыхадское свята. Трэба верыць, што апека і заступніцтва Багамаці ў далейшым будуць прысутнымі над царквою і прыхадам у Рыбалах.

**(агс)**

12 лістапада спаўняецца 50 гадоў Беластоцка-Гданьскай праваслаўнай епархіі.

# Беласток дзвюхканфесійны

Пасля II сусветнай вайны Польшча перамясцілася на захад. Разам са зменай дзяржаўных межаў, мяняецца структура Праваслаўнай царквы ў Польшчы — 90% вернікаў і маёмасці застаецца на ўсходзе. Калі да вайны Польская аўтакефальная праваслаўная царква налічвала блізка 4 мільёны вернікаў і 1579 прыходаў, дык пасля вайны адпаведна: 300 тысяч чалавек і 169 прыходаў.

На Беласточчыне ў першыя пасляваенныя гады большая частка духавенства і вернікаў прызнае над сабой юрысдыкцыю епіскапа Менскага Васілія з Маскоўскага патрыярхату. Толькі ў выніку рашучага дзеяння органаў дзяржаўнай бяспекі, у 1946 г. усе праваслаўныя прыходы Беласточчыны падпарадкаваліся епіскапу Цімафею і ўвайшлі ў новастворaную Варшаўска-Бельскую епархію.

У 1948 годзе Праваслаўная царква ў Польшчы зракаецца аўтакефаліі, якую атрымала ў 1925 годзе з Канстанцінопаля. За гэта Маскоўскі патрыярхат тут жа дае Варшаве сваю аўтакефалію, што, між іншым, дазваляе арганізаваць і ўмацоўваць царкоўныя структуры. 12 лістапада 1948 года Сабор епіскапаў ПАПЦ прыняў пастанову аб выдзяленні большай часткі Беластоцкага ды цэлай тэрыторыі Ольштынскага і Гданьскага ваяводстваў у асобную Беластоцка-Гданьскую епархію. Налічвала яна 43 прыходы, а ўзначаліў яе епіскап Цімафей.

Дзесяць гадоў пасля стварэння і адзіны раз за 50-гадовую гісторыю мяняюцца межы епархіі. У 1958 годзе прыходы ў Пухлах, Рыбалах і Трасцянцы перайшлі з Беластоцка-Гданьскай епархіі ў мітрапалічую Варшаўска-Бельскую.

Уладыка Цімафей кіраваў Беластоцка-Гданьскай епархіяй да 1961 года, калі быў абраны мітрапалітам Варшаўскім і ўсяе Польшчы. Яго месца ў Беластоку займае епіскап Сцяпан, які чатыры гады пазней таксама становіцца мітрапалітам. З 1965 па 1981 год, да адыходу на пенсію, Беластоцка-Гданьскую епархію ўзначальваў епіскап Ніканор.

У 1981 годзе ў Беласток прыбывае епіскап Сава. Пад яго кіраўніцтвам аднаўляюцца і рамантуюцца старыя царквы, будуюцца новыя. У Супраслі аднаджаецца манаскае жыццё і адбудоўваецца абарончая Дабравешчанская царква пачатку XVI стагоддзя, узарваная ў 1944 годзе. Пачынаюцца масавыя паломніцтвы на Святую Гару Грабарку і да іншых святых для праваслаўных месцаў. У Беласток з Гродна былі ўрачыста перанесены мошчы святога Гаўрыіла Заблудаўскага. Дзеля апекі над імі ўзнік жаночы манаскі дом у Дайлідах, які з цягам часу перабярэцца ў Зверкі — родную вёску святога.

Епіскап Сава ў 1987 годзе быў падняты да чыну архіепіскапа. У 1994 годзе стае начальнікам новастворанага Праваслаўнага ардынарыята Войска Польскага. Неўзабаве прысвойваецца яму вайсковае званне генерала брыгады. Пасля смерці мітрапаліта Васілія, Сабор епіскапаў Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, 12 мая гэтага года, абірае ўладыку Саву мітрапалітам Варшаўскім і ўсяе Польшчы. Аднак, прынамсі да будучага года будзе ён надалей кіраваць Беластоцка-Гданьскай епархіяй. Каб давесці да канца і ўпарадкаваць, — як было афіцыйна заяўлена, — распачатыя тут справы.

Несумненна, за час кіравання Беластоцка-Гданьскай епархіяй архіепіскапам Савам, расце ў Беластоку ранг царкоўных улад. З аднаго боку мяняецца грамадска-палітычны лад і ў пакінуты партыяй вакуум уваходзіць Каталіцкі касцёл, які намагаецца стаць новай вядучай сілай. З другога боку ўладыка Сава адстойвае інтарэсы Праваслаўнай царквы цвёрда і паслядоўна (што было відаць хаця б у канфлікце за Супрасльскую лаўру). Сядзіба архіепіскапа набывае вялікае палітычнае значэнне, як натуральная супрацьвага каталіцкай епіскапскай курыі (у апошні час Беластоцкай мітраполіі). У Беластоку няма нават што марыць пра палітычную кар'еру без благаславенства ці то царкоўнага, ці касцельнага іерарха. Паказалі гэта хаця б апошнія муніцыпальныя выбары. Іх рэзультат „Кур'ер паранны" пракаментаваў такім чынам: „Беласток дзвюхканфесійны".

**(ак)**

# Новая капліца

У Кляшчэлях будуюць капліцу св. Юрыя. Паклалі ўжо падлогу і зрабілі электраўстаноўку, а сцены і столь абабілі дошчачкамі. Усе сталярныя работы выконваюць Сцяпан Насковіч і Анатоль Шатыловіч.

У маі гэтага года ў кляшчэлеўскай капліцы служыўся ўрачысты малебен з удзелам 13 святароў, якія пасвяцілі напрастольны і выносны крыжы. Айцец Лявонцій Тафілюк падараваў новапабудаванаму храму ікону св. Юрыя, напісаную ў Іканапіснай школе ў Бельску-Падляшскім.

Калі ўжо будуць гатовыя алтар і іканастас, тады адбудзецца асвячэнне капліцы — праўдападобна яшчэ ў лістападзе гэтага года.

**(гай)**

Успаміны з мінулай эпохі

# Чэрвень — месяц цікавы і багаты

Чэрвень 1984 года быў цікавы і багаты з чыста педагагічнага пункту гледжання. Гэта ж час падлікаў педагагічных вынікаў. І гэтыя вынікі былі падведзены, так сказаць, сфіналізаваны.

Фінальныя вынікі трэба падзяліць на дзве часткі. Першая частка — гэта вынікі выпускных чацвёртых класаў, якія былі поўнасцю падведзены ўжо 7 чэрвеня. Другая частка — гэта вынікі ўсіх іншых класаў, значыць: першых, другіх і трэціх, і яны былі падведзены пад канец чэрвеня. Каб не мучыць чытачоў, падзялюся вынікамі толькі выпускных класаў.

Выпускных класаў было ў нас два: жаночы чацвёрты „а" і жанoча-мужчынскі чацвёрты „б". У класе „а" былі 24 поўнасцю дарослыя паненкі, у класе „б" — 25 таксама дарослых кавалера-паненак, прычым хлопцаў толькі нейкая трэцяя частка класа. Ліцэі ў нас — як бачым — не толькі цяпер, а ўжо даўно сфемінізаваныя.

Калі б каго цікавіла мая асабістая ацэнка гэтых класаў, дык я намнога вышэй ацэньваю клас „а", хаця ён і жаночы. Ён перавышаў клас „б" ва ўсіх адносінах. А самым моцным аргументам — па-мойму — было тое, што гэта мой клас, бо я быў яго выхавацелем, але не толькі. У класе „б" яшчэ дзяўчаты — як дзяўчаты, а вось хлопцы за чатыры гады зусім сфемінізаваліся! Аж дзіў бярэ, што аднаму з іх хутка потым удалося зацяжарыць адну дзяўчыну. Я больш схільны да погляду, што гэта яна пазбавіла яго нявіннасці, а не наадварот.

А цяпер наконт вынікаў. Усе 49 абітурыентаў былі дапушчаны да выпускных або матуральных экзаменаў, але прыступіла да іх толькі 45 выпускнікоў. Чатырох, па двух з кожнага класа, па ўласнай волі не прыступіла да экзаменаў увогуле.

Пісьмовых экзаменаў не здало чатырох абітурыентаў: трое з польскай мовы з класа „б" і адна з матэматыкі з майго класа. Вусных экзаменаў не здала толькі адна вучаніца і таксама з класа „б". Канчатковы вынік такі: 40 абітурыентаў атрымалі атэстаты сталасці і 9 — пасведчанне заканчэння сярэдняй школы. Розніца такая, што першыя мелі права паступаць у любыя вышэйшыя навучальныя ўстановы, а другія — толькі ў „паматуральныя" школы.

Урачыстасць развітання з выпускнікамі, якая называецца таксама „апошнім званком", адбылася 7 чэрвеня. Была яна вельмі ўрачыстая і складалася з дзвюх частак: афіцыйнай і неафіцыйнай. (У нас ужо стала свайго роду традыцыяй, што там дзе ёсць афіцыйная частка, там абавязкова павінна быць і неафіцыйная. Другая нават важнейшая ад першай, бо многія афіцыйныя асобы паяўляюцца на афіцыйнай часткі толькі дзеля неафіцыйнай часткі).

Вядучымі элементамі афіцыйнай часткі былі кветкі, прамовы і слёзы. Прамоў і кветак было мора, слёз таксама. Многія плакалі, слязамі залівaліся. Самі разумееце — развітанне. Моладзь астаўляла сваю родную школу і сяброў назаўсёды і адыходзіла — як кажуць — у сінюю даль. А гэтая „даль", добра прыглянуўшыся, не такая ўжо і сіняя была — аб гэтым і мы дасканала ведалі, а і моладзь не была пазбаўлена пачуцця рэальнасці. І як тут, скажыце, не заплакаць? Ці пусціў сваю гарачую персанальную развітальную слязу выхавацель чацвёртага „а" класа, не помню. Забыў ужо.

Мілыя, патрэбныя, але надта сумныя штогадовыя развітальныя ўрачыстасці, „апошнія званкі". Я іх і люблю, і не люблю. Аж просяцца пры іх ацэнцы Есенінскія радкі: „Тут разрыдаться может и корова..."

Атрымаўшы дакументальны доказ сваёй дарослaсці — „атэстат сталасці", нашы выхаванцы адразу даказалі, што дастойныя быць дарослымі. Яны пайшлі — як мне стала вядома пазней — усім дружным калектывам гэтую знамянальную жыццёвую падзею адзначыць ужо па-даросламу, гэта значыць, замачыць яе.

Не асталіся ў даўгу і педагагічныя кадры. Бацькі гэтай здольнай моладзі павялі нас, перамучаных чатырохгадовай бесперапыннай дыдактычна-выхаваўчай працай над іх жа „чадамі", на прадаўжэнне ўжо неафіцыйнай часткі развітальнай урачыстасці. Яна адбывалася не ў сценах роднай альма-матэр і не перад абліччам школьнага сцяга, а ў стыльнай частцы нашага гарадскога прытона з рамантычнай назвай „Лесніченка".

І калі афіцыйная частка была мацнейшай у пераносным сэнсе, дык неафіцыйная была такой у даслоўным. Сюды цюцельку ў цюцельку падыходзіла выражэнне „сустрэча на вышэйшым узроўні". Як жа ж інакш можна назваць узровень, калі на жаноча-мужчынска-бацькоўска-прафесарскую галаву прыпадала недзе каля паўлітра! А гарэлкі нашы і ў час крызісу былі салідныя, з норавам, жартаў над сабой не дапускалі. Комплексам і дэфіцытам яны таксама не хварэлі, як многія іншыя таварныя асартыменты.

Вядучымі элементамі неафіцыйнай, застольнай часткі праграмы былі тосты і звон келіхаў. Важкае слова сказала тут і кулінарыя. Яна надзвычай тонка падкрэсліла ўрачыстасць хвіліны — на сталах панаваў толк, прыгажосць і дастатак. Гэты стол, па-мойму, больш надаваўся б на цэнтральную выстаўку прадуктаў вострага дэфіцыту, чымсьці на развітальнае застолле. Такі багаты быў ён, што намнога лягчэй было б сказаць, чаго там яшчэ не было, як пералічыць усё, што на ім стаяла і ляжала.

А як умела ўсё было пастаўлена і расстаўлена! Цэнтральнае месца займалі рознаколерныя мясныя стравы. Паміж імі проста праплывалі румяныя рыбныя касякі (адзін з бацькоў быў заядлым браканьерам і ў той сезон спецыялізаваўся ў рыбалоўстве). Каля мясных страў і рыбных касякоў прыгожа высіліся гордыя тарты і хлебныя піраміды. Па баках роўным ланцужком беглі розныя дадаткі і салаты. Насупраць кожнай персоны стаяў кілішак да выпіўкі і шклянка да запіўкі. Вянцом усёй настольнай праграмы былі стройныя і шматлікія батарэі бутэлек і іншых шкляных пасудзін. Усё гэта злівалася ў магутную візуальна-пахавую сімфонію. Дык і не дзіва, што педагогі, па сваёй натуры народ асцярожны, баязлівы, адразу разгубіліся. Відны былі ў іх паводзінах нервовасць і спешка. Але гэта толькі спачатку. Пасля першага-другога тоста ўсё стала нармальна.

Сталу не ўступала публіка. У цэнтры застолля, як і павінна быць, важна і дастойна сядзела афіцыяльная асоба — пан інспектар. Ён і тут заставаўся службовай персонай выконваючай службовыя абавязкі. Каля яго, ззяючы ад радасці як раджджаство, сядзеў пан дырэктар. І як тут не радавацца яму, калі так паспяхова прайшоў матуральны і навучальны год, і выпускныя экзамены, і афіцыйная развітальная частка! Усё гэта не магло не падабацца і дырэктару, і вучням, і бацькам, і начальству, ад якога школа ў нейкай ступені заўсёды залежная. І што яно (начальства) не менш ласкава паглядае і на неафіцыйную частку. З левага і правага боку іх сціпленька прымасціліся выхавацелі IV „а" і IV „б" класаў. Далей, паблісківаючы сівізной і лысінамі, расселася ўсё іншае педагагічнае цела. А між імі цёрліся шустрыя бацькі.

Чым гэтае развітанне закончылася мне і іншым, дасведчаным навукамі і жыццёвай мудрасцю педагогам, пісаць не буду, часу малавата. Падзялюся толькі адной рэфлексіяй: „Калі б часцей даводзілася бываць на такіх развітаннях, то хутка прыйшлося б развітацца не толькі з педагагічнай кар'ерай, але і са здароўем, калі не з жыццём — гэта як піць даць".

А якія цудоўныя тосты былі! Галоўны змест іх гэта татальная падзяка і пахвала бацькоў нам, педагогам, за навуку і выхаванне іх дзяцей. Немалую частку гэтай пахвалы інкасіраваў і я. Пасля гэтага я ўжо і сам не ведаў, ці і сапраўды я так добра выхоўваў давераных мне недаросляў і іх бацькоў і гэта самая чысцейшая ўдзячнасць, ці бацькі ўсё гэта так ад радасці, што нарэшце вызваляцца ад маіх разумных і вучоных павучэнняў і натацый на тэму „як трэба выхоўваць сваіх дзяцей". Аб'ектыўна аднак кажучы, радавацца ўсё ж такі было чаму — ні адзін мой вучань гэтага выпуску судзімасці не меў. І, думаю, нейкая выхаваўчая заслуга ў гэтым магла быць і мая.

**Васіль Сакоўскі**

У пошуках легенды

# Ваявала са шведам

Маленькая вёсачка Сеські сёння памірае. Няшмат дапамагае ўтрымаць тут жыццё невялікая нітка няроўнай жвіроўкі, на якую, апрача Сеськаў, нанізаны яшчэ тры такія ж вёскі.

Аднак жа, глянуўшы на месца, якое выбралі заснавальнікі Сеськаў для першых сядзібаў, можна захапляцца іх мудрасцю. Вёска пабудавана на невысокім узгорку ўздоўж ракі Рудня, так, каб веснавыя воды не даходзілі да хат і гаспадарчых будынкаў. Вуліца, накіраваная дакладна з поўначы на поўдзень, заўсёды была своеасаблівым „гадзіннікам" у час гарачых дзён жніва.

Сёння нават Рудня, якую меліяравалі, ужо ні то рэчка, ні то сцёк. З выраўнаным і ўзмоцненым фашынай рэчышчам. Раней інакш яна выглядала!

Маёй бабулі пра рэчку расказвала яе свякруха, сядзіба якой знаходзілася вельмі блізка ад ракі. Гэта месца так і называлі: „Пад ракою", так яго называюць і да сёння.

Калісьці па рацэ Рудні арэлі сплаўлялі дрэва ў Нарву. За ракою сцяной стаяла велізарная, непраходная пушча. У тым, якія магутныя дрэвы там раслі калісьці, я магла пераканацца сама, калі пасля другой сусветнай вайны капала торф на багне за ракою. Часамі мы траплялі на пні, якія не ўдалося выцягнуць нават пры дапамозе многіх людзей.

Падзея, пра якую расказвала мне бабуля, здарылася ў часы шведскага патопу. Слухаючы аповеды бабулі, я сумнявалася, ці сапраўды датычацца яны такіх аддеглых часоў. Мне здавалася, што чужаземец з яе расказаў мог быць французам з напалеонскіх войнаў. Аднак жа мая бабуля ўпарта паўтарала, што ён быў шведам, а пра французаў яна можа расказаць штось іншае.

Дзеялася гэта, праўдападобна, у апошняй фазе вайны са шведамі, калі па ваколіцы бадзялася шмат бандаў галодных ваякаў, гатовых рабаваць і забіваць людзей. Насельніцтва Сеськаў уцякала ад іх у пушчу за ракою, беручы з сабою ўвесь свой дабытак. Жылі яны там у шалашах з голля, страву варылі на вогнішчах. Шведы баяліся пушчы, і жыхары адчувалі сябе там даволі спакойна. На жаль, на вогнішчы немагчыма было спячы хлеб. Гаспадыні па чарзе, рызыкуючы жыццём, былі вымушаны вяртацца ў сваю хату, каб там спячы хлеб сваёй і некалькім іншым, бліжэйшым сем'ям.

Аднойчы хлеб узялася пячы мая пра-, пра-...прабабка. Хлеб ужо падрос у дзежцы і бабка пачала фармаваць буханкі, кладучы іх на высушаныя лісткі капусты. У хлебнай печы дапальваліся апошнія дровы. Раптам адчыніліся дзверы — і на парозе бабка ўбачыла вялізнага шведа, зараслага рыжай барадой, у патрэпаным мундзіры. У руцэ ён трымаў стрэльбу. Кабета здранцвела ад страху. Трымаючы яе на мушцы, другой рукою салдат паказаў на рот — хацеў сказаць, што ён галодны. Адначасова шматзначным жэстам рукі ён абвёў вакол сваёй шыі, каб жанчына ведала, што яе чакае, калі яна яго тут жа не накорміць.

Спрытная кабетка хутка прыйшла ў сябе. Таксама „на мігі" растлумачыла шведу, што апрача сырога хлеба ў хаце нічога няма, дык лепш будзе, калі яна, перш чым загіне, спячэ той хлеб. Швед грозна лыпнуў на яе сваім крывым вокам, нешта замармытаў пасвойму і ўсеўся на парозе. Кабета зноў пачала корпацца каля печкі.

Цяпло ад печкі так размарыла змучанага салдата, што ён заснуў. Хроп ужо на ўсю хату і не пачуў нават, калі ў яго з рук паляцела на гліняную падлогу стрэльба.

І тады мая пра-, пра-...прабабка вырашыла дзейнічаць. Дакінула ў печку дроў і прысунула бліжэй да агню вялікі саган, напоўнены вадой. Калі вада пачала кіпець, з усёй сілы хлюснула яна цэлы саган на спячага шведа, а сама як мага хутчэй пабегла да сваіх, у пушчу.

Так вось мая пра-, пра-...прабабка, хаця і не збіралася, узяла ўдзел у народным змаганні са шведскімі акупантамі.

*Гэту легенду спісала я ў 1959 годзе. А пачула яе ад сваёй вельмі старой бабулі Тадоры Буслоўскай, жыхаркі вёскі Сеські.*

**Ірэна Курыла, Міхалова**

Адгалоскі

# Візіт Усяленскага Патрыярха

**Шаноўная „Ніва"!**

Абурыў мяне здымак з візіту Усяленскага Патрыярха, змешчаны на першай старонцы 43-га нумара „Нівы" ад 25 кастрычніка. На ім бачым, што галоўным „героем" гэтага здымка з'яўляецца польскі прымас Юзэф Глемп, побач якога стаяць Усяленскі Патрыярх Варфаламей I і мітрапаліт Сава. Такі здымак, на якім Усяленскі Патрыярх прадстаўлены як другарадная асоба (бо галоўнаю на ім прымас Глемп), з'яўляецца на маю думку нейкаю недарэчнасцю а нават насмешкаю.

Пытаю шаноўны рэдакцыйны калектыў „Нівы": ці вы гэтага не прадбачылі? Ці польская прэса змясціла б падобны здымак, калі б на ім замест Усяленскага Патрыярха быў рымскі папа Ян Павел II? Не! На такі здзек і прыніжэнне годнасці Вялікаму Госцю ніхто б з палякаў не дазволіў і не дараваў бы такому часопісу і яго рэдакцыі. Гэта ж скандал, для якога бракуе слоў абурэння! Калі не было іншага здымка, дык і гэтага не трэба было змяшчаць на першай старонцы „Нівы".

Уявім сабе для прыкладу здымак з візіту рымскага папы Яна Паўла II, на якім у цэнтры стаіць праваслаўны мітрапаліт Сава, а побач яго папа Ян Павел II і прымас Глемп ды далей праваслаўныя епіскапы. Што тады было б, няма сіл ні апісаць, ні прадбачыць. Ну што ж: мы, беларусы, спакойны ды паслухмяны народ...

Прашу прабачэння за мой можа занадта грубіянскі ліст, але гэта не мая асабістая заўвага; крытычныя заўвагі пра гэты здымак выказвалі мае сябры і знаёмыя, нават каталікі.

**Юстын Пракаповіч,**
**Беласток**

Ад аўтара тэксту

На змяшчэнне гэтага здымка найбольш з рэдакцыйнага калектыву настойваў я, таму і я адкажу паважанаму чытачу. Здымак гэта фатаграфічнае адлюстраванне падзеі, у нашым выпадку сустрэчы высокіх царкоўных і касцельных саноўнікаў. Сустрэчу такую я ацэньваю станоўча, бо калі б паказаныя саноўнікі цураліся такое сустрэчы, тады хай шаноўны спадар Пракаповіч уявіць сабе яшчэ, што абазначала б такая сітуацыя нам, праваслаўным у Польшчы: былі б сілы „апісаць" ці „прадбачыць"?.. А самая расстаноўка іх, гэта вынік або экуменічнага пратакола, або папросту ўзаемнай ветлівасці. Можна сабе ўявіць таксама, што высокія саноўнікі змагаліся за месца ў цэнтры, але калі б так было, тады прымасам не быў бы Юзэф Глемп, толькі Анджэй Галота.

Нашы шаноўныя хрысціяне, так адны як і другія, з'яўляюцца, прынамсі вербальна, паслядоўнікамі вучэння Хрыстова. А Ён навучаў м.інш.: „Шчасныя пакорныя, бо яны зямлю ўнаследуюць" (Мф. 5:3) і „Хто ўдарыць цябе па правай шчацэ, павярні да яго і другую" (Мф. 5:39). І на маю думку менавіта Усяленскі Патрыярх Варфаламей I прадстаўлены на здымку на найбольш пачэсным месцы, бо ён найбліжэй вучэння Хрыстова.

Згаданы здымак адлюстроўвае таксама і другі аспект. Ва ўсходнім хрысціянстве, так у Візантыі, як і на Русі, найважнейшымі асобамі ў царкоўным жыцці былі не царкоўныя саноўнікі, але імператары. На захадзе ж, прынамсі з 1077 года, калі пад Каносаю папа Грыгорый VII скарыў імператара Генрыха IV, — другі парадак; наш здымак і гэта тонка адлюстроўвае. З часам гэтая папская дамінацыя ператварылася ў культ, апагеем якога стала ўстаноўленая ў 1870 годзе догма аб беспамылковасці папаў. Мы ўдастоены вялікага шчасця, што жывем у такім месцы і часе, якія дазваляюць нам увачавідку бачыць гэты культ. Трэба прыгануць сабе другую запаведзь, каб усвядоміць, што „з'яўляецца нейкаю недарэчнасцю а нават насмешкаю".

Спадар Пракаповіч павучае, каб здымкі, якія яму не падабаюцца, не змяшчаць, а гэта ж, гаворачы інакш, прапанова цэнзураваць здымкі. Ну што ж, чытач наш правёў свае найлепшыя маладыя гады ў перыяд росквіту так цэнзуры, як і культу асобы, таму мусіць яны яму такія дарагія. А беларусы, як і другія славяне, — „спакойны і паслухмяны народ": без куміра — як дзеці без бацькі.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# У Чаромсе найдаражэй?!

Едучы цягніком з Беластока ў Чаромху, завёў я гаворку з даўнейшай сяброўкай па рабоце.

— Чаму ў Чаромсе найдаражэй плацім за дзіцячы садзік? — паспрабавала папытаць мяне яна.

— Сорак шэсць злотаў штомесячна сталай платы! І на што ідуць грошы? За бацькоўскі камітэт плацім асобна. На іншыя справы таксама.

Сяброўка казала, што ў Нурцы плацяць усяго 30 зл., а ў Мельніку 28. Нават у Беластоку менш бяруць.

— Калі я паспрабавала высветліць справу ў касірішы дзетсада, — працягвала сяброўка, — тая заявіла, што мясцовыя радныя так рашылі. Дык чаму ж яны ўсё рашаюць у сваю карысць? Дыеты сабе зацвердзілі самыя высокія. Падаткі грамадству таксама. Калі гэта скончыцца ўрэшце?..

Не ведаю, што і казаць у той справе. На маю думку, слова належыцца Чаромхаўскаму самаўраду. А які рэзультат будзе з нашай гаворкі? Час адкажа на гэтае пытанне.

**(ус)**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне, цяжкі сон мне прысніўся. Дрэнна спалася мне ў тую ноч, часта прачыналася я, ужо думала ўстаць, сесці ля вакна ды чакаць світанку. Але нейк, на ліха, заснула. І сніцца, што знаходжуся я ў нейкім месцы, там драўляныя будынкі, абы-якія хаты. У той хатцы, як бы яна была мая, знаходзімся мы з мужам, потым ужо я адна і пільную ўнучкаў майго брата. Старэйшага дык мала памятаю, больш таго маленькага. Апрануты ён у сукенку. А тут ужо і пара мне на работу ісці... І кажу я сама сабе: „Вось выдзірыла якія, асталі дзяцей мне і забіраць не спяшаюцца..." І яшчэ нейкія мужчыны ключы ад тае хаты ў мяне забралі. Я вельмі перажываю, не ведаю, што рабіць, ужо адна ў той хаце. І чую, хтосьці стукае ў дзверы. Божа, спужалася, хто гэта... Падыходжу да дзвярэй, а яны замкнутыя. І чую, што той, хто стукаў, ужо ключамі бразгае. Я дрыжу ад страху. Адчыняюцца дзверы і бачу, што гэта... знаёмы журналіст адной з беластоцкіх газет.

І тут пачула: „Уставай жа ж, на работу спознішся!" Быў гэта голас майго мужа.

**Вера**

Вера! Ніяк не магу цябе суцешыць. Увесь сон сведчыць аб нейкім вялікім смутку. Тыя абы-якія хаты, накінутыя на цябе абавязкі, мужчыны, якія забралі ў цябе ключы ад хаты, у якой ты знаходзілася, а яшчэ ж тыя зачыненыя дзверы, — гэтыя сімвалы з твайго сну гавораць аб кепскім.

Ключ, напрыклад, мог бы абазначаць нейкую выгадную здзелку, але ж яго ў цябе забралі. Значыць, можаш страціць свабоду ці маёмасць.

А вазьмі ты дзверы. Калі яны адчыненыя — чакае цябе поспех і цёплы прыём. Калі яны зачыненыя — могуць быць нейкія расчараванні і непрыемнасці.

Твае дзверы, на жаль, былі зачыненыя, і нехта чужы бразгаў тваімі ключамі.

Ну, што ж, усё наша жыццё такое. То надыходзяць чорныя хмары, то праз іх прабіваецца сонейка і свеціць нам шчодра.

**Астрон**

# Конкурс на ілюстрацыі

Гмінная публічная бібліятэка ў Белавежы аб'явіла пластычны конкурс для дзяцей і моладзі на найпрыгажэйшыя ілюстрацыі да твораў Адама Міцкевіча. Каб прыняць у ім удзел, трэба нарысаваць і прынесці ў ГПБ да 20 лістапада 1998 года ілюстрацыі да выбранага верша або байкі Адама Міцкевіча (фармат А4). Тэхніка іх выканання адвольная. Дэталёвую інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне 681-23-59.

**(гай)**

# Дом творчасці ў Нязнаным Бары

Надляснічы Надлясніцтва Гайнаўка Юры Лугавой і старшыня Акруговага праўлення Саюза польскіх мастакоў у Беластоку Ян Асташэўскі падпісалі дагавор да 2003 года ў справе арэнды лясной вартоўні ў Нязнаным Бары ў сэрцы Белавежскай пушчы з прызначэннем на Дом творчай працы для мастакоў-жывапісцаў, разьбяроў па дрэву, журналістаў і фатографаў. Сёлета ў Нязнаным Бары абсталёўваліся тры майстэрні для жывапісцаў, разьбяроў і фатографаў, а таксама пакоі для гасцей, кухня ды зала з камінкам.

У чэрвені гэтага года ў Нязнаным Бары займаліся гайнаўскія мастакі і разьбяры.

**(гай)**

# Дэкламатары на старт

Гарадская публічная бібліятэка імя Тадэвуша Ракавецкага ў Гайнаўцы (вул. 3 Мая 45) запрашае моладзь сярэдніх школ, а таксама працоўную моладзь прыняць удзел у дэкламатарскім конкурсе „Ад Міцкевіча... да Міцкевіча". Конкурс будзе праводзіцца ў двух катэгорыях: дэкламатарскі і г.зв. спяванай паэзіі.

Заяўкі ад удзельнікаў прымаюцца да 20 лістапада 1998 года.

**(гай)**

# Бельскія козыры

Цяпер 28-тысячны Бельск-Падляшскі даволі вядомы ў нашай краіне першнаперш з-за існуючых тут вялікіх будаўнічых фірмаў, між іншым „Унібуду", Бельска-Падляшскага будаўнічага прадпрыемства, „Польбуду" і „Экоінсбуду". Ад 1990 года іх дзейнасць вядзецца таксама па-за межамі нашай дзяржавы. Існаванне такіх прадпрыемстваў у Бельску-Падляшскім мае ўплыў на тое, што бяльшчане могуць знайсці сабе работу на месцы, а не шукаць яе, напрыклад, у Беластоку.

Бельск-Падляшскі амаль поўнасцю каналізаваны. Сёлета гарадскія ўлады забралі пра асфальт на вуліцы Жвіркі і Вігуры. А найважнейшай задачай — заканчэнне і перадача ў карыстанне гарадской цеплацэнтралі. На інвестыцыі прызначана было 30 прац. бюджэтных сродкаў.

**(гай)**

# Таямнічы звер у ГДК

У Гайнаўскім доме культуры адкрылі выстаўку пад загалоўкам „Таямнічы дзікі звер", падрыхтаваную пад кіраўніцтвам інструктаршы Зінаіды Якуць. Склаліся на яе рысункі зробленыя рознымі пластычнымі тэхнікамі. Экспазіцыю можна аглядаць кожны дзень (апрача панядзелкаў) у гадзінах працы ГДК.

**(гай)**

*Ніва*, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax (0-85) 743 50 22.

*Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.*

E-MAIL: niwa@kurier-poranny.com

INTERNET: (*wydanie elektroniczne w przygotowaniu*)

Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format).

Drukarnia: „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Яўген Мірановіч.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1999 r. upływa 5 grudnia 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка



*Мал. Алега Карповіча*

Фрашкі пра нашых

## Хвалапенне

Адраджэнне — ад *адрадзіцца*,
Але можна і так:
*ад роду адбіцца*.
Адзін пісака
(Матчын сын, унук *Дзедаў*)
Тварыў *абаяка*
(У адыдасы вылезшы з кедаў),
Сачыніўшы такую паэму
На ў той момант слушную тэму,
Пісаўшы па-беларуску,
Думаўшы, як заўжды, па-руску,
А чытаўшы як трэба,
Узняўшы вочы пад неба,
З падвываннем, з захапленнем:
**Адражджэнье**.
У... дражджах збаўленне?..

**Вандал Арлянскі**

## Гусі-лебедзі

Жылі-былі ў адной вёсцы ў Гэцкай гміне брат і сястра. Закончылі пачатковую школу ў мястэчку, якому адабраны былі гарадскія правы, але цяпер, дасць Бог, гісторыя і ўлады іх прывернуць. Ды гэтая справа, якая хвалюе частку грамадства Гэцкай гміны, перастала цікавіць Яся і Касю, паколькі іхнія бацькі купілі блёк і перасяліліся ў сталіцу ваяводства.

Пайшлі ў сярэднія школы Ясь і Кася. Не малыя ўжо, робяць што хочуць дзеткі, калі бацькі працуюць. Але няма чаго наракаць Тодару і Тэклі — на бацькоўскіх сходах толькі што і хваляць дзяцей. Ясь у прафесійную школу пайшоў быў вучыцца, Кася ў ліцэй. Кончыў школу Ясь, стаў на працу старажам (усё па-знаёмству), а Кася — хоць ты сцены грызі. Сядзіць Кася дома, бядуе з сяброўкамі; спачатку нават рада была, што нічога не робіць, а цяпер узялася б нават за зусім чорную работу, калі не ўдалося паступіць ва універсітэт. Ну, але што марыць пра брудную работку тут у нас, на Беласточчыне, калі можна дзерці туалеты і на Захадзе, за грошы? Шукаюць вось нянек, афіцыянтак, клічуць на фабрыку — расхвальвае брат знаёмае. Ведае ён там каго трэба, няхай дзяўчаты едуць. Што тут сіднем сядзець! Трэба збірацца ў свет.

Селі Кася з Марысяй ды Зоськай на маршрутны аўтобус, прыхапіўшы пашпарты і трохі шматак. Абяцалі пазваніць праз два тыдні.

Тэлефон азваўся сапраўды праз 14 дзён.

— Мама, я жыву, працую. Усё добра. Раблю на фабрыцы краўчыхай, жыву з сяброўкамі. Вечарамі нікуды не выходжу, бо страшна. Ну, мушу канчаць...

— А ў які вы горад трапілі? — стала дапытвацца Тэкля, але трубка змоўкла.

Бацькі супакойвалі сябе як маглі, ды тут у тэлебачанні пачалі паказваць дзяўчат з закрытымі тварамі, якія скардзіліся на маладое жыццё, якое іх узяло ды падвяло — ехалі на Захад працаваць у клубе афіцыянткамі, а сталі гейшамі для арабаў і туркаў. Ну, каб хоць гейшамі! Злякалася Тэкля, кінуў страшным праклёнам па хаце Тодар. Ну, прапала Кася! Прадае сваё маладое цела старым распуснікам! Не дай Божа, яшчэ якога ейца дастане. Выправілі Яся на пошукі сястры.

— Скажы ты мне, нямецкая яблынька, не бачыла ты мае сястры? — дапытваецца Ясь. А дзе ж там яе тая яблынька бачыла! Не працавала Кася ў гэтым садзе, не збірала ні хмелю, ні вінаграду. Ні печ хлябная нічога не скажа — не пякла ні хлеба, ні пернікаў ды шакаладу не варыла Кася. Не бачылі дзяўчат ні на будове, ні ў хляве, ні ў швальні. І паліцыя іх не бачыла. Куды ж падзелі Касеньку гусі-лебедзі? — заліваецца слязьмі брат ейны. Голы і босы ўжо астаўся, а есці ж трэба. А школу Ясь мае, залатыя рукі, у мове нямецкай кумекае, дык знайшоў занятак у мястэчку. Затым перабраўся ў Гамбург. Працуе, грош складае, сумныя тэлефоны і лісты шле бацькам — няма іхняе Каські! Добра, што хоць калегі файныя трапіліся Ясю ды людскі гаспадар, малады, як брат адносіцца ён да Яся...

Аднойчы Ганс запрасіў Яся ў добры, мужчынскі клуб. Які тавар там працуе! Грошай на яго не шкада! А дзеўкі здаровыя, праверaныя, няма чаго баяцца. Падумаў, падумаў Ясь — што тут шкадаваць! Незадоўга з'едзе на радзіму, дык чаму ж не пасмакаваць нямецкае раскошы?

Гансу трапілася Таня са Львова; не першы раз яе ў клубе наведваў. А Ясю — ейная сяброўка. Глянуў Ясь і абамлеў.

Так знайшоў Ясь урэшце сваю сястру Касю, што яе гусі-лебедзі ўкралі ў далёкі край.

**Кукша**

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Жонка шые, а муж прыглядаецца:

— Аднаго не разумею: як гэта дзеецца, што іголку навалакаеш без ніякіх праблемаў, а вось калі выязджаеш з гаража, заўсёды пашкоджваеш крыло.

* * *

Пасля доўгіх намоваў, просьбаў ды сварак муж купіў сваёй жонцы прыгожае футра. Яна, задаволеная, гаворыць:

— Шкадую тую істоту, якую для маёй прыемнасці абдзерлі са шкуры.

— Дзякую, каханая, што падумала ўрэшце і пра мяне.

* * *

Гутараць два сябры:

— Як твой папугай?

— Здох, бедненькі.

— Ад старасці?

— Не. Ад часу, калі я ажаніўся, яму ні разу не ўдалося дабіцца да голасу.

* * *

Жонка старанна аглянула мужава паліто і, не знайшоўшы на ім ніводнага жаночага воласа, накінулася на мужа:

— Дык ты ўжо нават лысым бабам не даеш спакою!

* * *

— Якія супольныя прыметы маюць цягнік і чаляс?

— 20-30 гадоў: таварны поезд, стае часта і доўга; 30-40 гадоў: пасажырскі поезд, стае часта ды коратка; 40-50 гадоў: скоры поезд, стае рэдка ды коротка; больш за 60 гадоў: экспрэс, стае толькі на тое, каб спусціць ваду.

* * *

Муж раней вяртаецца з працы і засцігае жонку ў ложку з незнаёмым мужчынам:

— Што гэта абазначае? Хто вы?!

— Мой муж мае рацыю, — умешваецца жонка. — Ну, як вы сапраўды называецеся?

* * *

— Якая ёсць розніца між чарадзейкаю і ведзьмаю?

— Нейкія сорак гадоў.

* * *

Муж вяртаецца позним вечарам дадому, у дзвярах сустракае яго жонка з качалкай. Мужу вядомая сіла гэтага аргумента і ён хутка хаваецца пад стол.

— Вылазь адтуль! — загадвае жонка.

— Не вылезу!

— Гавару: вылазь!

— Калі сказаў што не вылезу, дык не вылезу! Мужчына мусіць быць катэгарычны.

* * *

Маладая жонка скардзіцца сваёй маці:

— Ужо мяне не цікавяць размовы з мужам...

— Чаму?

— Бо што цікавага можа сказаць чалавек, які ніколі не мае рацыі?

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. гарыць на злодзеі, 4. першынство, 6. лётчык, 7. чарцёж паверхні зямлі, 9. верш Карана, 11. Павел, галоўны арганізатар Беларускай работніцка-сялянскай грамады на Беласточчыне, 12. пісьмовае пасведчанне адукацыі, 13. японскі востраў між Цусімай і Кюсю, 15. Хасэ Марыя, іспанскі прэм'ер-міністр, 17. выспы на Ціхім акіяне, якія з 1959 года з'яўляюцца амерыканскім штатам, 18. сын караля, 19. вячэра напярэдадні Каляд.

**Вертыкальна:** 1. беластоцкая адзначае сёлета пяцідзесяцігоддзе, 2. камплект друкарскіх літар, 3. мясцовасць на Крыме з піянерскім лагерам, 4. яшчэ не генерал, 5. Тамара, жывапісец з Белавежы, 6. жыве ў вуллі, 8. сям'я канструктараў смычковых інструментаў з Крэмоны, 9. старажытны армянскі горад, у 10-11 ст. сталіца Анійскага каралеўства (цяпер на тэрыторыі Турцыі), 10. група народаў Індакітая, 14. невялікая царкоўка, 16. брат Сінеуса і Трувара, продак рускіх князёў, 17. каўчуканоснае дрэва, якое расце ў трапічнай зоне Паўднёвай Амерыкі.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 40 нумара**

**Гарызантальна:** Калыма, статут, Шопран, Бушэ, пака, паўналецце, бард, Рычы, пекары, ласяня, Ладага.

**Вертыкальна:** карыбу, Машо, стан, утулка, Прыбалтыка, Шэпард, пацеры, Бачыла, Чыкага, пеня, Рыла.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** з Беластока і **Яўгену Барэлю** з Ваўкавыска.